ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!

# Каталіцкі ВЕСНІК

№3 (96) сакавік 2019 год

CATHOLICNEWS.BY

## У Глыбокім прайшло рэгіянальнае спатканне святароў


Стар. 4

## На Докшыччыне праз адпачынак і разважанні вучылі дзяцей супрацьстаяць злу


Стар. 5

## Рэкалекцыі для юнакоў і міністрантаў пройдуць у Міждыяцэзіяльнай семінарыі ў Гродне


Стар. 12

## Абраз Маці Божай Ружанцовай Ушацкай – гісторыя вяртання


Стар. 14

## Людзі кажуць пра цуды копцкіх пакутнікаў


Стар. 3





Адказы на вашы пытанні на старонках 11 – 13

Больш матэрыялаў чытайце на сайце
Catholicnews.by

# Храм святога Клімента ў Севастопалі: жыццё пасля вяртання




**У чэрвені 2018 года адбылася адна з самых значных падзей у гісторыі каталіцкай парафіі Севастопаля – былў вернуты католікам горада храм святога Клімента Рымскага. Увесь Севастопаль і многія вернікі чулі пра гэтую важную падзею.**

Пра тое, як праходзіць аднаўленне храма і што здарылася за час, які прайшоў з моманту яго вяртання, распавялі на афіцыйнай старонцы парафіі Укантакце.

Адразу пасля вяртання храма парафія пачала афармляць усе неабходныя дакументы. Гэты працэс усё яшчэ ідзе. Сам храм знаходзіцца ў вельмі запушчаным стане па прычыне доўгай закінутасці будынка. У асноўным памяшканні храма адсутнічала электрычнасць, былі праблемы са смеццем, столь знаходзіцца ў ненадзейным стане. Цяжкасці ўзніклі з планіроўкай, бо ў савецкі час да будынка храма зрабілі прыбудовы. Часткова не захаваўся алтар. Усе гэтыя праблемы стаялі і стаяць перад парафіяй.

17 жніўня прыехаў пробашч, айцец Леанід. У жніўні-верасні на даху храма быў устаноўлены крыж. Пачаўся перыяд суботнікаў, парафіяне прыводзілі храм у парадак, было прыбрана смецце і абсталяваны цвінтар, а на дзвярах размешчаны асноўная інфармацыя пра каталіцкую суполку і гістарычная даведка. Сродкамі на аднаўленне храма служылі ахвяраванні саміх севастопальскіх католікаў. Лета і пачатак восені прайшлі ва ўпартай працы і малітве.

У лістападзе 2018 года парафія святога Клімента рыхтавалася прыняць святыя Місіі, якія праводзіліся ў шмат якіх каталіцкіх парафіях Крыма. Сюды прыехаў айцец Анджэй Мадэй з Туркменістана, які ўвесь тыдзень вёў духоўную працу ў парафіі.

18 лістапада 2018 года ў сценах храма была адпраўленая першая за доўгі час святая Імша. Святыя Місіі завяршыліся асвячэннем 6-метровага Крыжа ля ўваходу ў храм. Яго Эксцэленцыя Біскуп Яцэк Пыль пастанавіў 23-га чысла кожнага месяца пасля Імшы чытаць Літанію да заступніка парафіі, святога Клімента, з ушанаваннем мошчаў святога. Таксама пробашч, айцец Леанід, абвясціў, што кожную нядзелю Імша будзе адпраўляцца ў храме.

Божае Нараджэнне каталікі горада сустракалі таксама ў храме. Цвінтар быў запоўнены, сабралася шмат гасцей, вернікі абменьваліся аплаткамі. На Вігілію са святам Божага Нараджэння іх павіншаваў губернатар Севастопаля Дзмітрый Аўсяннікаў.

Зараз ідуць актыўныя рамонтныя работы, рыхтуецца асноўнае памяшканне храма для малітвы. Імшы ў храме адпраўляюць тры разы на тыдзень (адзін раз у суботу і два – у нядзелю).

Парафіянаў чакае вялікая праца, каб зрабіць храм наблІжаным да яго гістарычнага аблічча. Яны просяць пра малітву і запрашаюць сачыць за навінамі парафіі на старонцы Укантакте.

*Рускатолик.рф*
*Пераклад з рускай*
*Змітра Лупача*

# Материалы к беатификации священника Жака Амеля, убитого исламистами, отправлены из Руана в Рим

**Епархиальная стадия беатификации французского священника Жака Амеля, убитого в июле 2016 года исламскими фанатиками, завершена. Теперь дело о его прославлении в лике мучеников рассмотрят в Риме, пишет "LaCroix".**

Официальное закрытие епархиальной стадии расследования, продолжавшейся два года, состоялось 9 марта в часовне Руанской архиепархии. В ходе церемонии, которую возглавил архиепископ Доминик Лебрен, были перевязаны красными лентами и запечатаны восковыми печатями девять коробок. Каждая из них весит около 20 кг и содержит материалы о жизни и смерти о. Жака, убитого исламистами во время мессы 26 июля 2016 года.

Оригинал досье объёмом 11 500 страниц останется в Руане, тогда как две копии (занимающие шесть коробок) будут вскоре отправлены в Рим. 10 апреля архиепископ Лебрен, который возглавит паломничество нормандских лицеистов в Вечный город, официально передаст эти материалы в Конгрегацию канонизации святых. После этого ватиканские эксперты вынесут свое суждение о том, действительно ли о. Амель умер как мученик и сообщат об этом Папе, которому принадлежит право объявить о факте мученичества официально.



По словам монс. Лебрена, решения по этому вопросу можно ждать "от двух лет до пяти веков" – архиепископ Руана намекнул на канонизацию Жанны Д'Арк, которая была прославлена Католической Церковью только через 500 лет после сожжения в этом нормандском городе.

Епархиальная стадия прославления о. Жака Амеля началась в мае 2017 года, после того как Папа Франциск отменил – специально для этого случая – пятилетний срок, который по церковным канонам должен пройти с момента смерти до начала беатификации.

В ходе расследования были опрошены 66 человек, лично знавших убитого священника. Среди них – восьмидесятилетние супруги Ги и Жанин Копоне. Террористы, напавшие на церковь и убившие о. Жака, ударили Ги ножом по горлу, но он остался жив. "Почему ни один из моих жизненно важных органов не был задет в этот день?" – задается вопросом пожилой француз и вспоминает последние слова, которые произнес Амель: "Изыди, сатана!" Именно они могут стать формальным основанием для провозглашения факта мученичества.

Вообще же – как напомнил постулатор в процессе беатификации священник Поль Вигуру – для признания убитого мучеником нужно дать ответ на четыре вопроса: была ли смерть насильственной? Каковы были намерения убийц? (действовали ли они, исходя из ненависти к христианской вере?); Как встретил убитый свою смерть? Какова была его репутация при жизни?

Для ответа на последний вопрос два богослова, состоящие в епархиальной комиссии, тщательно изучили 650 рукописных текстов проповедей, которые написал о. Амель. "Хотя о. Жаку было уже за 80, он скрупулёзно работал над текстами, перечеркивал одни слова, чтобы найти другие, более точные, – рассказал архиепископ Лебрен. – Его размышлениям над Евангелием свойственна какая-то особенная свежесть".

Но если многим были известны простота и скромность о. Амеля, то ни для кого из близкознакомых не был секретом и его трудный характер, добавил архиепископ. "Это может помочь нам понять, что такое "святость из-за соседней двери", которая так дорога Папе Франциску", – считает Доминик Лебрен.

*Благовест-инфо*



**Каталіцкая капліца ў анкадыспансеры ў Віцебску**

У Віцебскім абласным клінічным анкалагічным дыспансеры па адрасе вул. П. Броўкі, 33 дзейнічае каталіцкая капліца. Святая Імша адпраўляецца кожны аўторак а 16.00. Ёсць магчымасць запрасіць святара ў палату.
**Тэл. +375(29) 510-20-77 кс. Андрэй Аніскевіч**
**Тэл. +375(29) 894-55-11 сп. Яўгенія**

# Візіт Папы ў Балгарыю і Паўночную Македонію – афіцыйная праграма







**У экуменічным і міжрэлігійным ключы пройдзе Апостальскае падарожжа Папы Францішка ў Балгарыю і Паўночную Македонію. 7 сакавіка 2019 года ў Ватыкане была апублікаваная праграма майскага візіту.**

У нядзелю, 5 мая, самалёт з Пантыфікам на борце прызямліцца ў аэрапорце Сафіі. У балгарскай сталіцы яго будуць чакаць сустрэчы з Прэм'ерам і Прэзідэнтам, палітычным істэблішментам і дыпкорпусам. Таксама ў першы дзень візіту Папа наведае Патрыярха Балгарскага Неафіта ў яго рэзідэнцыі, памоліцца ў праваслаўнай катэдры. На плошчы Аляксандра Неўскага Францішак узначаліць малітву "Regina coeli", а затым адправіць св. Імшу на плошчы Князя Аляксандра І.

Другі дзень прабывання ў Балгарыі распачнецца для Пантыфіка з наведвання лагера для ўцекачоў. Затым ён адправіцца ў Ракаўскі, дзе ўзначаліць св. Імшу з удзелам дзяцей, што нядаўна прынялі Першую св. Камунію. У горадзе на поўдні Балгарыі адбудзецца размова Папы Францішка з мясцовым епіскапатам, якая пройдзе за абедам, і сустрэча з мясцовай каталіцкай супольнасцю.

Пасля вяртання ў Сафію, 6 мая вечарам, на плошчы Незалежнасці Папа ўзначаліць Малітву за мір з удзелам прадстаўнікоў розных канфесій.

7 мая Святы Айцец правядзе ў Скоп'і. Адразу пасля прылёту з Сафіі яго чакаюць сустрэчы з паўночнамакедонскімі Прэзідэнтам і Прэм'ерам, палітыкамі і дыпламатамі. Затым Папа наведае Мемарыял Маці Тэрэзы. Тут яго будуць чакаць прадстаўнікі розных канфесій і рэлігій, потым адбудзецца сустрэча з беднымі. На плошчы ў сталіцы Македоніі ён узначаліць св. Імшу, пасля якой правядзе дзве сустрэчы: з маладымі прадстаўнікамі розных канфесій і рэлігій, а таксама з духавенствам.

Візіт у Балгарыю пройдзе пад дэвізам "Мір на зямлі", а ў Паўночную Македонію – "Не бойся, малы статак".

*Беларуская рэдакцыя*
*Vatican News*

# Папа Францішак вырашыў адкрыць архівы пантыфікату Пія XII



**Папа Францішак прыняў рашэнне адкрыць архівы Святога Пасаду, якія датычаць пантыфікату Пія XII у перыяд з 2 сакавіка 1939 года па 9 кастрычніка 1958 года. Даследчыкі змогуць убачыць дакументы праз год.**

2 сакавіка 2020 года Ватыканскі сакрэтны архіў дасць доступ да 151 тыс. пазіцый. Гаворка ідзе, у тым ліку, і пра рукапісы шматлікіх выступленняў Эўджэніа Пачэлі, а таксама тэксты, у якія ён уласнаручна ўносіў праўкі.

З дакументамі кваліфікаваным даследчыкам можна будзе азнаёміцца бясплатна і свабодна. Адзіным патрабаваннем з'яўляецца валоданне адпаведнай навуковай або ўніверсітэцкай ступенню і рэкамендацыйны ліст ад акрэдытаванага гістарычнага навуковадаследчага інстытута або прафесара, кампетэнтнага ў галіне гістарычных даследаванняў.

Цікавасць даследчыкаў да пантыфікату Пія XII вельмі высокая, паколькі ён прыйшоўся на час глабальных гістарычных змен і Другой сусветнай вайны.

*Беларуская рэдакцыя*
*Vatican News*

# 80 год абрання Пія XII – Папы, які падтрымліваў беларускую мову



**80 гадоў таму на пасаду Біскупа Рыма быў абраны італьянскі кардынал Эўджэніа Пачэлі – папа Пій XII, 260-ы Наступнік св. Пятра. Гэта адбылося 2 сакавіка 1939 года ў першым галасаванні канклаву.**

"Annuntio vobis gaudium magnum; habemus Papam..." – традыцыйнае абвяшчэнне аб абранні новага Пантыфіка суправаджалася чатырма хвалямі гучных апладысментаў соцень тысяч людзей, сабраных на плошчы св. Пятра. Пій XII мужна і дбайна вёў Касцёл у складаны для свету перыяд, з 1939 года па 1958 год.

Прыняўшы біскупскае пасвячэнне 13 мая 1917 года – у дзень першага аб'яўлення Маці Божай у Фаціме – ён шмат разоў сустракаўся са сведкай тых падзей, с. Лусіяй Душ Сантуш, а затым, у 1940 годзе, канчаткова прызнаў іх сапраўднасць. 1 лістапада 1950 года Пій XII абвясціў дагмат аб Унебаўзяцці Панны Марыі.

Пантыфік быў адкрыты на сучасныя тэхналогіі, асабліва іх выкарыстанне для распаўсюджвання Евангелля. У энцыкліцы "Miranda prorsus", прысвечанай кіно, радыё і тэлебачанню, ён назваў медыя "цудоўным тэхнічным вынаходніцтвам".

Пій XII быў руплівым абаронцам сям'і і чалавечага жыцця, а таксама суровым да хрысціян, якія вызнавалі "камуністычнае вучэнне", бо ведаў наколькі небяспечнымі з'яўляюцца яго наступствы для грамадства і чалавека.

Прозвішча Папы – Пачэлі, у корані якога знаходзіцца слова "pace" – "мір", пэўным чынам вызначыла адзін з галоўных аспектаў яго пантыфікату, на час якога прыйшоўся складаны перыяд Другой сусветнай вайны. Менавіта яму належаць знакамітыя словы: "Нішто не згублена з мірам, але можна згубіць усё з вайной".

У шырокім сэрцы Пія XII знайшлося месца таксама для беларусаў. У 1949 годзе ён удзяліў благаслаўленне беларускаму народу, якое пераказаў праз аднаго прадстаўнікоў беларускай каталіцкай эміграцыі. Менавіта падчас Пантыфікату Пія XII беларуская мова атрымала "найвышэйшае прызнанне", калі стала адной з моў вяшчання Ватыканскага радыё. Папа падтрымліваў душпастырства беларускіх вернікаў за мяжой, адкрыццё беларускіх душпастырскіх цэнтраў у Вялікабрытаніі, Францыі, Бельгіі і Германіі, выданне малітоўнікаў, Евангелля і каталіцкага перыядычнага друку на беларускай мове.

*Беларуская рэдакцыя*
*Vatican News*

# Людзі кажуць пра цуды копцкіх пакутнікаў



**У 2015 годзе хрысціяне ўсяго свету аплаквалі копцкіх пакутнікаў, якіх забілі джыхадысты ў Лівіі.**

Прадстаўнікі ІДІЛ паведамілі мужчынам, што калі яны адмовяцца ад Езуса, іх захаваюць жыццё. Аднак замест гэтага палонныя паўтаралі словы: "Госпад Езус Хрыстус".

Пасля мучаніцкай смерці гэтых мужчын адбылося некалькі цудаў, а Копцкая Царква абвясціла іх святымі.

Копцкая Царква яшчэ з V ст. не знаходзіцца ў поўных эўхарыстычных зносінах з Рымам, таму гэтыя людзі афіцыйна не прызнаны святым Апостальскім Пасадам на чале з Папам Францішкам.

Нягледзячы на гэта, Святы Айцец не быў абыякавым да мучаніцкіх смерцяў. Ён падзякаваў Царкве, якая мае пакутнікаў, што даюць сілу яе веры: "Дзякуй вам за ваш прыклад", – сказаў Пантыфік. Таксама Папа ўшанаваў гэтых пакутнікаў падчас свайго візіту ў Егіпет.

Нямецкі раманіст Марцін Мозебах наведаў егіпецкі гарадок Аль-Оўр, адкуль паходзілі трынаццаць пакутнікаў. Ён пагаварыў з сем'ямі ахвяраў і распавёў, што ўсе яны расказваюць пра цуды.

Яго кніга "21. Падарожжа ў зямлю копцкіх пакутнікаў" тлумачыць адкрыццё пакутніцтва гэтых людзей, уключаючы цуды, якія ім прыпісваюць.

Таксама пісьменнік дадае, што ў цудах прысутнічаюць самі пакутнікі, уласна, яны і вылечваюць людзей. Як паведамляецца, цуд адбыўся з сынам аднаго з пакутнікаў пасля таго, як ён упаў з трэцяга паверха будынка на вуліцу. Хлопец зламаў руку ў некалькіх месцах. Вярнуўшыся ў прытомнасць, ён распавёў, што яго закатаваны бацька злавіў яго. За некалькі дзён рэнтген хлопца не паказаў ніякіх пашкоджанняў.

Іншыя крыніцы паведамляюць пра цуды, звязаныя з лячэннем млоснасці і жаночага бясплоддзя. У артыкуле таксама гаворыцца, што людзі ў гэтай вёсцы ганарацца пакутнікамі, таму што яны засталіся моцнымі да канца і памёрлі за сваю веру.

Пасля таго, як так званая Ісламская Дзяржава здзейсніла гэта страшнае забойства, Прэзідэнт Егіпта Абдэль Фатах ас-Сісі распарадзіўся пабудаваць храм у гонар пакутнікаў. Цяпер у Аль-Оўр стаіць храм пакутнікаў за веру і радзіму.

*credo.pro*

# У Глыбокім прайшло рэгіянальнае спатканне святароў



**Адбылося яно 13 сакавіка ў парафіяльным Доме імя кс. Юзафа Францкевіча.**

**Зміцер Лупач**, *тэкст*; **Леанід Юрык**, *фота*

На сустрэчу сабраліся святары і кансэкраваныя асобы з Глыбоцкага, Докшыцкага, Шаркаўшчынскага і Мёрскага дэканатаў. Упершыню ў гэтым месцы спатканне прайшло ў новым фармаце: святары сустракаліся ў больш вузкім коле. Напярэдадні, 12 сакавіка, падобная сустрэча прайшла ў Паставах для Пастаўскага, Відзаўскага і Браслаўскага дэканатаў. Як паведаміў дэкан Глыбоцкага дэканата кс. Мікалай Ціхановіч, падобная практыка спатканняў праводзіцца ў якасці эксперыменту. Час пакажа, ці будзе апраўданы такі фармат.

На жаль, у сустрэчы ў Глыбокім незмог прыняцьудзел біскуп Віцебскі Алег Буткевіч, які ў гэты час знаходзіўся на пахаванні бацькі біскупа Аляксандра Яшэўскага SDB. Курыю прадстаўляў эканом дыяцэзіі кс. Вячаслаў Барок.

Сустрэча распачалася а 10-й гадзіне з выстаўлення Найсвяцейшага Сакраманту ў касцёле Святой Тройцы. Потым адбылася канферэнцыя, якая прайшла ў парафіяльным доме. Яе тэмай была евангелізацыя сем'яў, умацаванне каталіцкай супольнасці праз працу з сем'ямі. Менавіта на гэту працу звяртае ўвагу арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч у сваім пасланні на 2019 год.

З дакладам на гэту тэму выступіў кс. Мікалай Ціхановіч. Ён адзначыў важнасць працы з сем'ямі, з дзецьмі, варта спрыяць умацаванню яе ў сваёй парафіі. Парафію дакладчык назваў "сям'ёй сем'яў". Калі будзе моцнай хрысціянская сям'я, будзе моцны і Касцёл.

Святар адзначыў важнасць працы ў малых групах, якія аб'ядноўваюць невялікую колькасць сем'яў. "Гэтага ад нас патрабуе час, – адзначыў святар, – ужо мінулі тыя часы, калі святару было дастаткова прамовіць казанне ў нядзелю, адзін раз на год сустрэцца з сем'ямі падчас каляды. Зараз святару важна самому ісці да вернікаў, не шкадаваць на гэта часу." У якасці прыкладу святар прывёў пратэстантаў, якія шмат працуюць з сем'ямі і маюць адпаведны вынік.

Кс. Мікалай падзяліўся з прысутнымі сваім вопытам працы з сем'ямі ў парафіі. Ён адзначыў, што зараз на сустрэчы прыходзіць недзе каля двух дзясяткаў сем'яў. "Вядома, гэта няшмат, недзе два адсоткі ад усіх сем'яў у парафіі, але гэта самыя актыўныя сем'і, якія ўплываюць на іншых. Таму нам трэба навучыцца чытаць адзнакі часу, – сказаў напрыканцы дакладчык, – і працаваць з каталіцкімі сем'ямі. Гэта важна як для вернікаў, так і для саміх святароў".

Пасля абмеркавання дакладу а дванаццатай гадзіне ў касцёле распачалася святая Імша. Галоўным цэлебрантам быў кс. Мікалай Ціхановіч, які маліўся ў інтэнцыі спачылага Генрыха Яшэўскага – бацькі біскупа Аляксандра.

Казанне прамовіў кс. Эдвард Нарадоўскі, пробашч з Задарожжа. Гамілію ён прысвяціў важнасці споведзі. Бо спавядацца важна не толькі звычайным вернікам, але і самім святарам. У якасці прыкладу святар прывёў святога Папу Яна Паўла II, які спавядаўся кожны тыдзень. Цяперашні Папа Францішак спавядаецца адзін раз на два тыдні.

– Каб кагосьці навучыць рабіць якую важную справу, трэба самому спачатку навучыцца яе рабіць, быць тут прыкладам, – падкрэсліў святар, – трэба задумацца над тым, як я асабіста гэта раблю, як прыступаю да сакраманту пакаяння, як перажываю сваю асабістую сустрэчу з Езусам Хрыстом.

Святар перасцярог ад таго, каб споведзь не станавілася нейкай звычайнай руціннай справай, каб кожны сакрамант пакаяння перажываўся намі як сустрэча з самім Збаўцам. Кс. Эдвард прывёў некалькі прыкладаў са свайго ўласнага жыцця, у тым ліку ўзгадаў сваю першую споведзь, якую ён перажыў у Браславе ў 1984 годзе. "Бо ўсё тое святое, што адбываецца ў нашым жыцці, і запамінаецца намі на ўсё жыццё, " – патлумачыў святар.

– Толькі святар у імя Хрыста можа адпускаць грахі, таму не будзем забываць, якім вялікім дарам мы надзеленыя, – сказаў на заканчэнне пробашч з Задарожжа.

У найбліжэйшы час павінна адбыцца падобная сустрэча святароў усходніх дэканатаў дыяцэзіі.

## У Ашмянах развіталіся з бацькам біскупа Аляксандра Яшэўскага

**13 сакавіка ў Ашмянах адбылося пахаванне Генрыха Яшэўскага – бацькі дапаможнага біскупа Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Аляксандра Яшэўскага SDB.**

Бацька біскупскага вікарыя для г. Магілёва і Магілёўскай вобласці адышоў у вечнасць 11 сакавіка ва ўзросце 65 гадоў пасля працяглай хваробы, аднак непасрэднай прычынай раптоўнай смерці стаў адрыў тромба. Развітанне са спачылым адбылося ў касцёле св. Міхала Арханёла ў Ашмянах – у парафіі, да якой спачылы належаў апошнія дзесяць гадоў свайго зямнога жыцця.

Падтрымаць сям'ю ў жалобе сабраліся многія святары, кансэкраваныя асобы, родныя і сябры. Свае спачуванні біскупу Аляксандру з прычыны смерці бацькі напярэдадні выказаў арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч, Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі, які асабіста не змог прысутнічаць на пахаванні праз запланаваную на гэты дзень складаную аперацыю. Словы спачування і падтрымкі перадаў свайму сабрату таксама Генеральны вікарый Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі біскуп Юрый Касабуцкі, які цяпер прадстаўляе беларускі Касцёл за мяжой.

З дома памерлага праводзіў дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі. Абрад пахавання ў касцёле і на могілках правёў Гродзенскі біскуп Аляксандр Кашкевіч, а цэлебрацыю пахавальнай святой Імшы ўзначаліў прадстаўнік Папы Францішка ў Беларусі Апостальскі нунцый арцыбіскуп Габар Пінтэр. Гамілію падчас Эўхарыстыі прамовіў Віцебскі біскуп Алег Буткевіч.

Напачатку іерарх звярнуў увагу на той асаблівы час развітання са спачылым Генрыхам, які адышоў у вечнасць на самым пачатку Вялікага посту. "Роўна тыдзень таму, у Папяльцовую сераду, мы пасыпалі галовы попелам на знак прамінальнасці ўсяго зямнога. Пост – гэта перыяд, які рыхтуе нас да Уваскрасення Хрыста. Нават зменлівае сакавіцкае надвор'е цёплым па-веснавому сонейкам апраменіла гэты дзень, як быццам асвятляючы яго надзеяй: надзеяй на вечнае жыццё з Хрыстом пасля смерці", – сказаў біскуп Алег.

Іерарх зазначыў, што яму не даволося пазнаёміцца з бацькам біскупа Аляксандра пры жыцці, аднак плён яго жыцця – сын-біскуп – сведчыць пра спачылага як пра чалавека найвышэйшых хрысціянскіх якасцяў. Падбадзёрваючы свайго сабрата ў апостальскім служэнні ў




цяжкую для яго і яговых родных хвіліну, біскуп Алег дадаў: "Мы можам спадзявацца на тое, што, адыходзячы з гэтага свету, Генрых ідзе да Пана Бога па ўзнагароду вечнага жыцця... Сёння бацька біскупа Аляксандра становіцца яго заступнікам перад Богам, каб падтрымліваць свайго сына ў служэнні Касцёлу".

На заканчэнне Эўхарыстыі, дзякуючы ад свайго імя, а таксама ад імя сваёй мамы, сястры і бабулі ўсім прысутным, біскуп Аляксандр Яшэўскі згадаў пра тое, якім чалавекам ён запомніў свайго тату: "Галоўнай яго рысай была надзвычайная цярплівасць. Ён ніколі і ні на што не скардзіўся... Клопат пра сям'ю быў у ягоным жыцці на першым месцы. Калі б ён даведаўся, што я ў Магілёве не меў бы хлеба, ён сеў бы ў машыну і прывёз. Калі штосьці было патрэбна маёй сястры, ён сядаў на цягнік і ехаў да яе ў Маскву, каб дапамагчы", – распавёў біскуп пра свайго бацьку.

Пасля абрадаў развітання ў касцёле пахавальная працэсія, што складалася з некалькіх дзясяткаў машын, рушыла на могілкі ў вёску Войневічы, што знаходзіцца паміж Ашмянамі і Барунамі. Там, на роднай зямлі, на сціплых вясковых могілках і быў пахаваны Генрых Яшэўскі.

Памяць пра яго засёды застанецца ў сэрцах і малітвах многіх людзей, перадусім ягоных дзяцей, а ён будзе суправаджаць іх сваёй нябачнай, але надзейнай падтрымкай з дома Нябеснага Айца.

*Catholic.by*

## Біскупы Беларусі адмянілі пост у некаторыя пятніцы года

8 сакавіка падчас 74-га пленарнага пасяджэння Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі біскупы абмеркавалі і прааналізавалі кананічную норму, сфармуляваную ў каноне 1251 ККП ад 1983 г. "Аб днях пакаяння", а канкрэтна аб устрыманні вернікамі ад спажывання мясных страваў у пятніцу падчас актавы Нараджэння Пана.

На падставе канона 87 §1 чальцы ККББ прынялі рашэнне пра ўдзяленне вернікам Каталіцкага Касцёла на тэрыторыі ККББ дыспенсы ад устрымання ад спажывання мясных страваў для асобаў, старэйшых за 14 гадоў, у пятніцу падчас актавы Нараджэння Пана і ў пятніцу падчас галоўных урачыстасцяў Маці Божай Будслаўскай, Браслаўскай, Лагішынскай і Тракельскай.

Вернікі, якія будуць карыстацца дыспенсай, павінны памаліцца ў інтэнцыях Святога Айца.

*Паводле catholic.by*

# “Любі бліжняга, як самога сябе”

**“Любі бліжняга, як самога сябе” – гэтыя словы сталі і назвай сённяшняга артыкула, і падмуркам для маёй штодзённай працы.**

**Таццяна Палхоўская**, *псіхолаг*



Як мудра стварыў Бог чалавека і якія прадуманыя Яго запаведзі! Яны шматстайныя, здольныя адкрывацца і даваць чалавеку на розных узроўнях новую інфармацыю. Кожнаму па магчымасцях, здольнасцях і патрэбах.

Вось “любі бліжніх…” можна разглядаць як абвінавачванне ў эгаізме (накшталт, усё роўна ты толькі чалавек, толькі сябе любіць і можаш, то тады ўжо, калі ласка, палюбі бліжняга, хоць як сябе!).

А можна і інакш, глыбей (чым я і захапляюся). Справа ў тым, што чалавек, які не любіць сябе, не можа палюбіць іншага. Парадаксальна? Не, наадварот, усё проста.

Калі ты патрабуеш ад сябе бездакорнасці, табе цяжка прымаць памылкі іншых. Калі ты ўвесь час працуеш, не дазваляючы сабе расслабіцца нават на выхадных, тады іншых захочацца асуджаць за ляноту, за бяздзейнасць ды марнаванне часу. Калі сварышся на сябе за любую ўвагу да сваёй асобы, то іншыя ўспрымаюцца табой адназначна як эгаісты.

Несвядома мы пачынаем чакаць ад людзей столькі ж, колькі аддаём самі. Чулі пагардлівае стаўленне старэйшых жанчын да маладзейшых: “Я траіх дзяцей выгадавала і без дапамогі, а яна з адным справіцца не можа?” Ці такое: “Раней і пральных машын не было і пыласмокаў, усё рукамі, а цяпер поўная хата тэхнікі, а яны ўсё скардзяцца, што цяжка!” Ці мужчыны да хлопцаў у войску: “Нічога! Нас і на больш забіралі, і грошай не было, і бацькі не прыязджалі – далёка! Пацерпіш”. Дрэннае стаўленне да сябе прыводзіць да жорсткасці, знікнення эмпатыі. Перастаючы шкадаваць сябе, мы забіваем здольнасць шкадаваць іншых.

І наадварот, калі ты з пакорай прымаеш сваю недасканаласць, ведаеш, што можаш прымаць няправільныя рашэнні, часам не вытрымліваць спакусаў, то ты і іншым будзеш даваць права на памылку. Больш спачуваць і ахвотней прабачаць. Прабачаць чалавеку значна прасцей, калі табе самому прабачалі, калі ты сам сабе прабачаў.

Такім чынам, паспрабуйце не канцэнтравацца на сваіх памылках, а лепш падумаць, што можна зрабіць наступны раз, каб такога не паўтараць. Усё. Гэтага дастаткова. Не трэба сварыцца на сябе. Асуджэнне выклікае страх, а страх не найлепшы litарадца для любові!

Дзякуй за ўвагу! Любіце бліжніх, як сябе!



## Сёлета Маці Божая Будслаўская сустрэне пілігрымаў пад новым шклом

**12 сакавіка ў Нацыянальным санктуарыі ў Будславе было заменена шкло на цудадзейным абразе Маці Божай Будслаўскай.**

**Мікола Гракаў**, *Catholic.by;* **Віталь Палінеўскі,** *фота*

Ініцыятарам замены шкла, якое абараняе каштоўную святыню ад шкоднага ўздзеяння асяроддзя, стаў новапрызначаны будслаўскі пробашч кс. Дзмітрый Дубовік, які на ўласныя сродкі набыў з гэтай мэтай высокаякаснае музейнае шкло.

Новае шкло ўдвая танчэйшае за папярэдняе і не толькі больш празрыстае, але да таго ж не блікуе, што дазваляе без перашкодаў бачыць Маці Божую з Дзіцяткам Езусам на руках з розных пунктаў і пры розным асвятленні.

У клопаце пра цудатворны абраз, які з’яўляецца не толькі вялікай хрысціянскай святыняй, але і выдатным шэдэўрам сакральнага мастацтва і неацэнным набыткам усяго беларускага народа, пробашчу дапамагаюць мінскі калекцыянер і энтузіяст Ігар Сурмачэўскі з сынам Станіславам, а таксама прафесійныя мастакі-рэстаўратары Аляксандр Петракоў і Аляксандр Лагуновіч, супрацоўнікі Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі.

Адзін з іх, Аляксандр Петракоў, распавёў падрабязнасці:

– Пад новым шклом абраз стаў выглядаць значна лепш. Цяпер ствараецца ўражанне глыбіні, аб’ёмнасці выяваў, лепш бачныя дэталі.

Безумоўна, нас цікавіў таксама стан самога абраза, які быў грунтоўна адрэс-таўраваны на пачатку 90-х гадоў Віктарам Лукашэвічам.

– На той час рэстаўрацыя была зроблена якасна, аднак сёння неабходна сачыць за станам лакавага пакрыцця жывапісу, якое дзе-нідзе прыўзнялося і набыло белы колер. Нічога катастрафічнага пакуль не адбываецца, але за гэтым працэсам неабходна назіраць, – зазначыў спецыяліст.

Яшчэ адзін момант, на які звярнуў увагу рэстаўратар, – гэта тое, што шата мацуецца да абраза цвікамі, а кароны да яе прыпаяныя і прыкручаныя… шрубамі.

– Сёння рэстаўратары імкнуцца пазбягаць такога “траўматычнага” для жывапісу спосабу накладання шаты і найчасцей прымацоўваюць яе да рамы, а не да абраза такім чынам, каб не пашкодзіць апошні. Магчыма, прыйдзе час, калі менавіта так будзе мацавацца шата і на абразе Маці Божай Будслаўскай.

## На Докшыччыне праз адпачынак і разважанні вучылі дзяцей супрацьстаяць злу

**2 сакавіка больш за трыццаць дзяцей і падлеткаў з Бягомльскай, Бярозаўскай, Докшыцкай парафій і Бягомльскай дапаможнай школы-ітэрната сабраліся на тэрыторыі паляўнічага комплексу “Гарадзенка” Бягомльскага лясгаса, каб разам адпачыць і паразважаць над тэмай “Небяспека знявольванняў”.**

**Наталля Дабравольская**

Аднадзённыя рэкалекцыі былі арганізаваныя а. Тадэвушам Кавальскім OFMCap і с. Маргарытай Аўгустын ASC, дапамогу ў рэалізацыі запланаванай праграмы аказалі настаўніца Алена Гігола, парафіянка з Докшыц Наталля Дабравольская, выхавальніца Бягомльскай школы-інтэрната Таццяна Дземідовіч і рэабілітанты Бягомльскага Цэнтра “Светач”.

Сучасныя дзеці і моладзь шмат ведаюць пра пагрозы алкагольнай, тытунёвай, камп’ютэрнай залежнасцяў, але рэдка задумваюцца над тым, як пазбегнуць гэтых праблем ва ўласным жыцці. Удзельнікам рэкалекцый было прапанавана паразважаць над прычынамі ўзнікнення і спосабамі барацьбы з такімі знявольваннямі, як алкагалізм, тытунёвая і інтэрнэт-залежнасці, крадзеж.

Праз вырашэнне інсцэнаваных праблемных сітуацый, удзел у практыкаваннях “як адмовіцца?”, “вучымся казаць “НЕ”, разважанне Евангелля аб аздараўленні жанчыны (Лк 13, 10-13) і аздараўленні сляпога ля Ерыхона (Мк 10, 46-52), праз гутарку і малітву дзеці асэнсоўвалі глыбіню праблем і вучыліся, давяраючы Богу, знаходзіць альтэрнатыву “модным”, але небяспечным паводзінам.

Месца правядзення рэкалекцый было выбрана невыпадкова. Нават вясковыя дзеці больш часу праводзяць у памяшканнях: у школе, дома, за выкананнем дамашніх заданняў, у гаджэтах, усе радзей бываючы на прыродзе. Забавы і гульні на свежым паветры сталі неад’емнай часткай адпачынку з Богам.

Безумоўна, такія выезды патрэбныя дзецям. Час, праведзены з Богам і сябрамі, напаўняе фізічнымі і духоўнымі сіламі для штодзённай барацьбы са спакусамі.



# "Карытас" –

**У трэцюю нядзелю Вялікага посту у парафіях Віцебшчыны збіраюцца ахвяраванні на Дабрачыннае каталіцкае таварыства "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі.**

**с. Дар'я Галубкова OV**, *тэкст, здымкі з архіва Caritas Віцебскай дыяцэзіі*

Арганізацыя Caritas, назва якой перакладаецца як "міласэрная любоў", існуе ва ўсім каталіцкім свеце, а "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі дзейнічае ўжо 19 гадоў. "Карытас" нясе дапамогу тым людзям, хто найбольш яе патрабуе, нягледзячы на расавую, нацыянальную ці рэлігійную прыналежнасць. Супрацоўнікі і валанцёры ў сваёй дзейнасці рэалізуюць наказ Хрыста любіць адно аднаго і быць міласэрнымі, як наш Бог.

Чым жа займаецца гэтая арганізацыя і навошта ёй патрэбныя ахвяраванні? Мы вырашылі пазнаёміць шаноўных чытачоў з асноўнымі напрамкамі дзейнасці "Карытас" на Віцебшчыне.

**Цэнтр дзённага прабывання для людзей з інваліднасцю** дзейнічае ў Віцебску пры "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі з 2003 года. Кожны дзень, акрамя выхадных, маладыя людзі з інваліднасцю прыходзяць у цэнтр займацца рукадзеллем, творчасцю, музыкай, працаваць на кампутары, пячы пірагі ды і проста сустрэцца разам за кубачкам гарбаты. З дапамогай валанцёраў у цэнтры ладзяцца святы, арганізуюцца вандроўкі і экскурсіі. Падобныя асяродкі дзейнічаюць і пры парафіяльных арганізацыях "Карытас" у Мёрах і Глыбокім. На цяперашні момант цэнтры наведвае больш за 60 чалавек з інваліднасцю.


Заняткі студыі ІМПЭТ

**Студыя інклюзіўнага танца ІМПЭТ.** Ужо больш за два гады пры "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі дзейнічае студыя інклюзіўнага танца. Яна аб'ядноўвае аматараў танца з інваліднасцю і без яе, на вазках і на нагах, маленькіх і вялікіх, якія танцуюць на роўных. Танцоры ахвотна прымаюць удзел у канцэртах і выступах. У 2017 годзе інклюзіўная танцавальная пара Крысціна і Валерый заняла трэцяе месца на міжнародным анлайн-конкурсе інклюзіўных калектываў InZoom у Маскве, затым яны сталі фіналістамі Міжнароднага дабрачыннага танцавальнага фестывалю "Вялікі кубак Inclusive dance" ў Маскве, а ў 2018 годзе там жа ўзялі спецыяльны кубак "За выканальніцкае майстэрства". На дадзены момант у студыі займаюцца 5 чалавек на вазку і 21 чалавек "на ножках".

**Сустрэчы для самотных і састарэлых асобаў "Другое дыханне".** Ужо другі год раз на месяц у сядзібе "Карытас" у Віцебску адбываюцца сустрэчы для самотных і састарэлых асобаў. Праводзіць іх дырэктар "Карытас" кс. Андрэй Аніскевіч, а таксама запрошаныя госці: лекары, юрысты, духоўныя асобы. Удзельнікі абмяркоўваюць цікавыя пытанні, дзеляцца жыццёвым вопытам, спяваюць, чытаюць вершы.

**Дапамога тым, хто ў патрэбе.** "Карытас-Віцебск" сумесна з еўрапейскім партнёрам "Карытас-Лінц" нясе тым, хто мае патрэбу, дапамогу ў выглядзе прадуктаў харчавання, адзення, абутку, дроваў. За 2018 год на гэтыя мэты было вылучана 15 224 бел. руб. Акрамя таго, 3600 бел. руб. выдаткавана на харчаванне малазабяспечаных асобаў на працягу трох месяцаў у сталовай г. Віцебска. Ад пачатку 2019 года 943 сям'і з Віцебскай дыяцэзіі атрымалі дапамогу на суму 22 370 бел. руб.

**Харчовая дапамога для Віцебскага гарадскога цэнтра часовага (начнога) знаходжання бяздомных асоб.** "Карытас-Віцебск" рэгулярна закупляе прадукты харчавання (крупы, муку, цукар, кансервы, алей, макароны, печыва, гарбату і інш.), з якіх гатуюць сабе ежу людзі, што страцілі дах над галавой. На Вялікдзень і Божае Нараджэнне яны атрымліваюць ад "Карытас" падарункі.

**Закупка сельскагаспадарчых жывёл для падтрымкі вясковых жыхароў.** Новы праект "Карытас" накіраваны на падтрымку гаспадарак малазабяспечаных, шматдзетных сем'яў. "Карытас" купіў і перадаў для далейшай гадоўлі 15 бычкоў і цялушак, 40 парсючкоў, 950 курэй на суму 20 442 тыс. руб.

**Дапамога дзецям разам з "Карытас-Прага".** Дзеці са шматдзетных, малазабяспечаных сем'яў і сем'яў, якія выхоўваюць дзяцей з інваліднасцю, два разы на год атрымліваюць фінансавую дапамогу для набыцця адзення, абутку, школьных прыладаў ці аплаты навучання ад дабрачынцаў "Карытас-Прага". Для дзяцей таксама арганізоўваюцца святочныя мерапрыемствы і экскурсіі ў Чэхію. У праекце прымае ўдзел каля 400 дзяцей і іх сем'яў.

**Дапамога анкалагічна хворым дзецям.** Пачынаючы з 2005 года, "Карытас" набывае імунна-пратэктарныя лекі для дзяцей, якія хварэюць на рак. У 2018 годзе было закупена лекаў на суму 10 670 бел. руб. Для іх таксама арганізуюцца святы ў Дзень абароны дзіцяці, уручаюцца падарункі на Божае Нараджэнне.

**Інтэграцыйныя святліцы для дзяцей.** У 2018 годзе пры падтрымцы "Карытас" Польшча і праграмы "Польская дапамога" віцебскі "Карытас" адрамантаваў і адкрыў інтэграцыйныя святліцы для дзяцей пры парафіях у Лепелі і Мёрах. Таксама ўжо 12 гадоў дзейнічае святліца пры парафіі ў Лынтупах, якую падтрымлівае "Карытас" разам з замежнымі партнёрамі: Renovabis і Kindermission. У святліцах адбываюцца заняткі па катэхезе, кулінарыі, творчыя майстэрні. Дзеці і моладзь разам з выхавальнікамі рыхтуюць хатнія заданні, гуляюць, ладзяць святы. У гэтым навучальным годзе святліцы наведвае каля 130 дзяцей.

**Дапамога дзецям з каталіцкіх парафій Віцебскай дыяцэзіі.** "Карытас-Віцебск" рэалізуе некалькі праектаў для дзяцей з каталіцкіх парафій нашай дыяцэзіі:

● Кожны год ладзіцца летні адпачынак "Канікулы з Богам" для дзяцей як у Польшчы, так і ў нашай дыяцэзіі. У 2018 годзе ў летніку "Карытас" прыняло ўдзел 120 дзяцей.




Шматдзетная сям'я атрымала дровы для ацяплення дому


Віншаванне бяздомных з Вялікаднем разам з біскупам Алегам

# значыць Любоў



● Дзеці атрымаліваюць ад "Карытас" салодкія падарункі на свята Божага Нараджэння і на Дыяцэзіяльным конкурсе батлеек. З нагоды апошніх святаў было раздадзена падарункаў на суму 7200 бел. руб.

● У навучальным годзе 2018/2019 распачаўся праект "Пазнаём сваю веру", у межах якога парафіі Віцебшчыны атрымалі 857 падручнікаў для заняткаў па рэлігіі.

● Яшчэ адной мэтай праекту з'яўляецца правядзенне Дыяцэзіяльнага конкурсу на веданне Святога Пісання для дзяцей, які ў нашай дыяцэзіі ўпершыню адбудзецца ў сакавіку-красавіку 2019 г.

**Кансультацыі каталіцкага псіхолага.** Па ініцыятыве віцебскага "Карытас" псіхолаг сп. Марына Ткач чатыры разы ў месяц праводзіць бясплатныя сустрэчы і кансультацыі па сямейных пытаннях у сядзібе "Карытас", а таксама ў розных парафіях нашай дыяцэзіі.

**Дапамога парафіям і дзяржаўным сацыяльным установам Віцебскай вобласці.** За апошнія некалькі гадоў пры дапамозе "Карытас" былі рэалізаваныя наступныя праекты:

● Прафесійнае абсталяванне пральні: набыццё адціскальнай і сушыльнай машыны ў Варонаўскі дом-інтэрнат для састарэлых і інвалідаў коштам 22 092 бел. руб., таксама пральных парашкоў.

● Набыццё мэблі для палат (8412 бел. руб.), а таксама пасцеляў, халатаў, піжамаў, гігіенічных сродкаў (4772 бел. руб.) для патрэбаў пацыентаў псіхіятрычнай бальніцы ў Слабодцы.

● Набыццё пасцеляў, халатаў, піжамаў, гігіенічных сродкаў (4772 бел. руб.) для Сялюцкага псіханеўралагічнага дома-інтэрната.

● Абсталяванне і рамонт харчовага блоку (34851 бел. руб.), рамонт дзіцячых душавых (15 695 бел. руб.) у Бягомльскай дапаможнай школе-інтэрнаце Докшыцкага раёна.

● Спецыяльная вулічная дзіцячая пляцоўка для гульняў на суму 4433 бел. руб. для Віцебскай школы-інтэрната для дзяцей з парушэннем слыху.

● Дапамога ТЦСАН Віцебскага раёна: абсталяванне швейнай майстэрні (6800 бел. руб.), падводка вады (4000 бел. руб.) набыццё трактара, мотаблока, упарадкаванне гаспадарчай тэрыторыі (8765 бел. руб.).

● Абсталяванне швейнай майстэрні і міні-пральні для ТЦСАН Першамайскага раёна г. Віцебска на суму 9964 бел. руб.

● Набыццё муфельнай печы для ТЦСАН Мёрскага раёна на суму 3101 бел. руб.

● Дзякуючы дапамозе партнёраў з "Карытас-Лінц", віцебскі "Карытас" перадаў парафіі Св. Антонія ў Віцебску ліфт для перавозу асобаў з інваліднасцю і састарэлых асобаў коштам 37838 бел. руб.




Акрамя галоўнай сядзібы "Карытас" у Віцебску, пры васьмі парафіях Віцебскай дыяцэзіі існуюць **парафіяльныя арганізацыі "Карытас"**: Святой Тройцы ў Глыбокім, Св. Андрэя ў Лынтупах, Св. Казіміра ў Лепелі, Перамянення Пана ў Чашніках, Сэрца Марыі ў Оршы, Унебаўшэсця НПМ у Мёрах, Нараджэння Маці Божай у Браславе, Езуса Міласэрнага ў Паставах.

**Валанцёрскі рух "Карытас-Віцебск".** Дабрачынная праца не была б магчымая без валанцёраў. Гэта людзі рознага ўзросту, прафесіі і веравызнання, якія ахвяруюць свой час, здольнасці і адкрытае сэрца бліжнім. На дадзены момант у Віцебску ёсць 28 пастаянных валанцёраў "Карытас", якія:

• наведваюць дзетак у Віцебскім дзіцячым доме;
• у дзіцячым аддзяленні віцебскай абласной псіхіятрычнай бальніцы;
• у школе-інтэрнаце для дзяцей з парушэннем слыху;
• апякуюцца дзецьмі падчас летнікаў;
• дапамагаюць у Цэнтры для людзей з інваліднасцю, а таксама ў арганізацыйных і лагістычных справах у офісе "Карытас".

Валанцёры дзейнічаюць таксама і пры парафіяльных арганізацыях "Карытас", працуючы з дзецьмі, людзьмі з інваліднасцю, несучы дапамогу тым, хто мае патрэбу, на тэрыторыі ўсёй парафіі.

Валанцёры з Глыбокага ўжо шмат гадоў арганізуюць фестываль **"Мы разам!"**, які збірае маладых людзей з інваліднасцю з усёй Віцебшчыны.

**Наш адрас:** вул. Чкалава 52, к. 1, г. Віцебск 210041; тэл. +375 212 618822, + 375 29 8369993, e-mail: caritas.vitebsk@mail.ru

Далучайцеся да групы ў кантакце ***https://vk.com/caritas.vitebsk***, каб сачыць за навінамі "Карытас"!


Дзеці падчас летніку



Танец Крысціны і Валерыя "Недасяжнае каханне" на фестывалі Inclusive Dance


Выезд на прыроду для людзей з інваліднасцю


Святкаванне Божага Нараджэння з наведвальнікамі цэнтра для маладых інвалідаў у Віцебску

# Дырэктар Pro Christo Аліна Новікава: “Кніга, у якой гаворыцца пра святло Евангелля, заўсёды будзе актуальнай!”



**З дырэктарам каталіцкага выдавецтва Pro Christo Алінай Новікавай мы пагутарылі ў Баранавічах падчас святкавання 25-цігадовага юбілею часопіса “Дыялог”.**

**– Скажыце, калі ласка, Вы пачыналі сваю працу ў “Дыялогу”?**

– Не, у самім часопісе я не працавала. Але дапамагала рыхтаваць дакументы на рэгістрацыю “Дыялога”, а таксама знайшла для рэдакцыі друкарню ў Слоніме, з якой яны супрацоўнічаюць да сённяшняга дня.

**– Падчас свайго выступу на канферэнцыі Вы сказалі, што першае каталіцкае выданне выйшла на Віцебшчыне, у Мёрах. Гэта сапраўды так?**

– Так, гэта быў самы пачатак 90-х гадоў. Наша пісьменніца Ірына Жарнасек супрацоўнічала тады са святой памяці кс. Уладасам Пятрайцісам. Гэта ў іх узнікла такая ідэя – выдаваць парафіяльную газету, і яны хіба з дзесяць нумароў выдалі. Называлася яна “Голас душы”.

Выпуск газеты быў спынены, хутчэй за ўсё, праз фінансавыя праблемы, але потым гэта газета атрымала другое жыццё ўжо пры мінскай парафіі святых Сымона і Алены. Кс. Уладзіслаў Завальнюк яе выпускае як рэдактар. Таму “Голас душы” выходзіць зараз у Мінску. Але гэта адбылося ўжо значна пазней.

А першай медыйнай ластаўкай была менавіта гэта парафіяльнай газета на тэрыторыі сучаснай Віцебскай дыяцэзіі. Бо тады яшчэ самой дыяцэзіі не існавала, яна ўтварылася значна пазней, у 1999 годзе.

А пачатак дзевяностых – гэта якраз адраджэнне структур Касцёла ў Беларусі, гэта такая культурная і рэлігійная адліга, калі ўжо можна было нешта казаць праз рэлігійнае слова, і гэта газета была вельмі папулярная сярод парафіянаў.

**– Вы зараз узначальваеце хрысціянскае выдавецтва. Як думаеце, у век Інтэрнэту не памрэ кніга?**

– Я нядаўна мела дванаццацігадзінны пералёт на самалёце. І мяне здзівіла, што некаторыя пасажыры чыталі ў самалёце такія тоўстыя кнігі. Вядома, іх была не большасць, бо значная частка людзей сядзела ў смартфонах або чытала электронныя кнігі. Але мяне здзівіў той факт, што шмат людзей у самалёце чытала звычайныя папяровыя кнігі.

Канечне, мы павінны берагчы прыроду, ахоўваць лясы, бо папера робіцца з драўніны. З гэтага пункту гледжання мы павінны менш выпускаць папяровых версій. Але людзі ўсё ж прывыклі атрымліваць асалоду і ад дотыку да добрай кнігі, да сузірання ілюстрацый, таму папяровыя версіі таксама даволі папулярныя. Гэта я мяркую паводле попыту на часопісы і традыцыйныя кнігі, што выдаюцца ў нашай краіне, у тым ліку і выдавецтвам Pro Christo.

У нас ёсць электронныя версіі некаторых кніг і сайт часопіса Ave Maria, але, як мне здаецца, папяровыя версіі больш папулярныя сярод чытачоў.

Будзем шчырымі, яшчэ не ўсюды ў Беларусі Інтэрнэт працуе, і не кожны яшчэ ўмее ім карыстацца. Гэта датычыцца як людзей пенсійнага веку, так і шмат каго з сярэдняга ўзросту. Ды і ў моладзі друкаваныя кнігі вельмі папулярныя. Вось у нас ёсць “Духоўная кніга”, такая крама духоўных выданняў Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі, дык там я часта бачу шмат моладзі. Кнігі набываюць як на падарункі, так і для ўласнага чытання. Гэта сведчыць пра тое, што кніга не памірае, як бы тэхнічны прагрэс ні ішоў наперад.

І ў наш час за мяжой адбываецца шмат кніжных выстаў. Як, напрыклад, сусветна вядомы Лейпцыгскі кніжны кірмаш. У той жа Германіі вельмі шмат кнігарняў, кніжных шапікаў... Бывае, па пяць-шэсць на вуліцы.

Таму абвінавачваць ва ўсім тэхнічны прагрэс не выпадае. Можа, у нас проста страчваецца культура чытання?..

**– Зараз выдаецца шмат кніг на рускай мове, бо гэта больш рэнтабельна. Рускамоўны кніжны рынак нашмат большы за беларускамоўны. Як у такіх варунках захаваць беларускую кнігу?**

– Калі браць канкрэтна наша выдавецтва, я б не сказала, што мы больш кніг выдаём на рускай мове, чым на беларускай. У нас прыярытэт за беларускай мовай. Але возьмем, напрыклад, такога аўтара, як шаноўны ксёндз-езуіт Юзаф Аўгустын. Ён сам вядзе рэкалекцыі, і вядзе іх у рускамоўных краінах, то, вядома, з практычнага пункту гледжання яму лепш замовіць кнігу на рускай мове, таму што больш людзей будзе мець магчымасць праводзіць гэтыя рэкалекцыі, карыстацца імі.

Мы гэтых рэкалекцый выпусцілі шэсць тамоў, шэсць кніг. Яны карыстаюцца не толькі павагай і попытам у тых, хто ўдзельнічае ў духоўных практыкаваннях, але і ў звычайнага чытача. Гэтыя кнігі дапамагаюць у штодзённым жыцці. Напрыклад, першы том прысвечаны таму, як пазбавіцца ад крыўдаў. Людзі гэтым цікавяцца, і наша выданне прыносіць ім карысць.

Але справа ў тым, што такія рэкалекцыйныя тамы заснаваныя на духоўных практыкаваннях святога Ігнацыя Лаёлы. А кніга “Духовные упражнения святого Игнация Лайолы” была выпушчана ў Маскве на рускай мове. І ў выданнях айца Юзафа цэлыя цытаты з гэтай кнігі ўстаўленыя. Таму пакуль не выйдзе беларускі пераклад “Духоўных практыкаванняў святога Ігнацыя Лаёлы”, датуль не будуць выдадзеныя гэтыя рэкалекцыі па-беларуску.

Але ўсё ж больш аўтараў, якія просяць нас пра пераклад іх кніг, хоча, каб яны былі на беларускай мове. І мы гэтаму вельмі рады.

Праўда, не кожны чытач яшчэ добра разумее рэлігійныя кнігі па-беларуску, асабліва калі гэта філасофскія выданні.

**– Але яны ўсё ж выдаюцца?**

– Вядома. Вось зараз рыхтуецца на беларускай мове “Дэкалог” паводле святога Тамаша Аквінскага па ініцыятыве айцоў-дамініканаў, якія праводзяць штогадовыя кангрэсы восенню ў Магілёве. Яна вельмі складаная на беларускай мове. Але мы радуемся з таго, што гэта таксама нейкі ўклад у скарбонку развіцця беларускай мовы. Бо там і новая тэрміналогія, і новыя аспекты, таму добра, што гэта выходзіць на беларускай мове. Гэта застанецца ў гісторыі. А вось тое, што зараз ёсць у Інтэрнэце, яшчэ невядома.

> **“Некалі нам святой памяці кардынал Казімір Свёнтак казаў: “Ну што вашы камп’ютары? Вось знікне электрычнасць – і вы бездапаможныя. А ў мяне ёсць машынка, на якой я з часоў вайны працую”**

І гэта праўда. Бо кнігу можна чытаць заўсёды. Няма электрычнасці – можна запаліць свечку і чытаць пры ёй. А кніга, у якой гаворыцца пра святло Евангелля, гаворыцца пра ратаванне душы, заўсёды будзе актуальнай.

**– Дзякуй за размову. Поспехаў у Вашай дзейнасці!**

– І вам таксама поспехаў! Заахвочваю вас да чытання кніг, бо кніга – гэта заўсёды мудрасць, заўсёды – надзея, і без кнігі сумна жыць.

*Гутарылі*
***Зміцер Лупач***
***і Леанід Юрык***




**Каталіцкае выдавецтва Pro Christo прымае ўдзел у міжнароднай выставе ў Польшчы, 2017 г.**
*Фота з сайта ave-maria.by*

## Пакой для малітвы

ў Віцебскай абласной бальніцы знаходзіцца на другім паверсе галоўнага корпуса каля ліфта з боку неўралагічнага аддзялення.

Малітва – набажэнствы, магчымасць сустрэчы з каталіцкім святаром: сакрамантальная паслуга, размова, кожны аўторак, чацвер і пятніцу з 11.30.
Са святаром можна скантактавацца па тэлефоне:
+ 375 29 78 51 298

# Слоўнік Вялікадня



**Вялікдзень (Пасха)** – (з габрэйскай – "пераход") – свята ў юдэяў і хрысціянаў. Юдэі святкуюць збаўленне ад егіпецкай няволі і выратаванне першародных дзяцей.



Хрысціяне святкуюць збаўленне ад рабства граху і смерці праз Уваскрасенне Езуса Хрыста з мёртвых.



**Апостал** – (ад грэч. "пасланы") – вучань Хрыста (адзін з 12 ці 70 бліжэйшых вучняў).



**Сінедрыён** – найвышэйшы орган палітычнай, рэлігійнай і юрыдычнай (судовай) улады ў Юдэі ў перыяд рымскага панавання.

**Першасвятар** – святар, які ўзначальваў службу ў Скініі,



затым у Першым і Другім Ерусалімскім храме. Абавязкам першасвятара было прыглядаць за ўсім, што датычылася храма, набажэнства і святарства. Ён павінен быў прыносіць ахвяры як за свае грахі, так і за грахі ўсяго народа. Яму належала здзяйсняць прадпісаныя ахвяры ў Дзень адкуплення. У часы Езуса першасвятар старшынстваў у сінедрыёне і ў палітычным плане з'яўляўся вярхоўным правадыром народа, праўда, падкантрольным акупацыйным рымскім уладам.



**Прэторыя** – у Рымскай імперыі – гэта палац, у якім жыў кіраўнік правінцыі і дзе ён здзяйсняў суд.



**Праснакі** – хлеб з прэснага незаквашанага цеста, які ўжываецца ў габрэйскім рэлігійным спажытку як велікодная страва. Тое самае, што маца.



**Парфіра** – вопратка барвовага (ярка-чырвонага) колеру, у старажытнасці з'яўлялася знакам царскай годнасці.



**Галгофа** – месца ўкрыжавання Хрыста, пагорак, размешчаны на паўночным усходзе ад Ерусаліма за гарадской сцяной у раёне прыгарадных садоў і магіл. Хрысціянскае паданне сцвярджае, што ў Галгофскай гары быў пахаваны Адам, кроў Хрыста сцякала на чэрап Адама і ў яго асобе абмывала ўсё чалавецтва ад брыдоты граху. Адсюль малюнак чэрапа каля падножжа крыжа.



**Плашчаніца** – ільняное палатно, якім абгарнулі цела Езуса, перад тым як паклалі Яго ў грабніцу ў скале.

*Падрыхтавала*
***Вікторыя Зарэчная***

# Ад Галгофы да Уваскрасення

**Новы тэст "Каталіцкага Весніка" дапаможа Вам перажыць апошнія падзеі з жыцця Езуса Хрыста аж да Уваскрасення і разам з тым праверыць Вашыя веды на гэтую тэму.**

1 Хто з вучняў падрыхтаваў Пасху Госпаду? (Лк 22, 8)



**А.** Якуб і Філіп
**Б.** Пётр і Ян
**В.** Андрэй і Ян

2 Хто ўзмацняў Езуса падчас малітвы ў Садзе Аліўным? (Лк 22, 42-43)



**А.** Марыя Магдалена
**Б.** Вучні
**В.** Анёл

3 Хто намагаўся папярэдзіць Пілата, каб не чыніў ніякай крыўды Хрысту?



**А.** Дачка Пілата
**Б.** Жонка Пілата
**В.** Маці Пілата

4 Хто прасіў у Пілата зняць цела Езуса Хрыста з крыжа? (Ян 19, 38)



**А.** Саул з Тарсу
**Б.** Марыя Клеопава і Марыя Магдалена
**В.** Юзаф з Арыматэі

5 З кім зблытала Марыя Езуса, калі спаткала Яго каля пустой магілы? (Ян 20, 15)



**А.** З самарыцянінам
**Б.** З сотнікам
**В.** З садоўнікам

6 Двое вучняў, якія першыя пабеглі да магілы Уваскрослага Хрыста? (Ян 20, 2-3)



**А.** Пётр і Ян
**Б.** Ян і Павел
**В.** Тамаш і Якуб

7 Дзе спаткаўся Езус са сваімі вучнямі пасля Уваскрасення? (Мц 28, 16-17)



**А.** Самарыя
**Б.** Галілея
**В.** Кафарнаум

8 На які дзень пасля Вялікадня святкуецца Пяцідзясятніца? (Спасланне Духа Святога)



**А.** На 40
**Б.** На 50
**В.** Залежыць ад дня святкавання Вялікадня

Адказы на стар. 14

*Падрыхтавала*
***Вікторыя Колзун***

# Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

**Свае ахвяраванні нам даслалі: Тэрэза Скур'ят** *(Мацешы)*, **Ян Кіслы** *(Швакшты)*, **Віталь Рагоўскі** *(Браслаў)*, **Лубінская Я.Ф.** *(Шэметава)*, **Браніслава Юран** *(Браслаў)*, **Марына Рабецкая** *(Крэва)*, **Анэля Кашкур** *(Павяцце)*, **Валерыя Шакель** *(Лугі)*, **Эмілія Бугаева** *(Лынтупы)*, **парафіяне з Глыбокага, Валянціна Мурзенак** *(Паставы)*, **Соф'я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Соф'я Чырвінская** *(Язні)*, **Яніна Курыловіч** *(Курылавічы)*, **Ванда Кірылава** *(Ёды)*, **Тэрэза Скур'ят** *(Мацешы)*, **Ганна Карніловіч** *(Глыбокае)*, **Марыя Селіцкая** *(Параф'янава)*, **Казімір Буткевіч** *(Шаркаўшчына)*, **Феліцыя Небышынец** *(Дубовы Лог)*, **Эма Сцяпанава** *(Сталіца)*, **Вольга Парневіч** *(Крулеўшчына)*, **парафіяне з Браслава, Паўлава Е.П.** *(Віцебск)*, **Вольга Мятла** *(Сталіца)*, **Лоўкіс Л.В.** *(Навасёлкі-2)*, **Алена Сліжэўская** *(Буйкі)*, **Леанід Грыбач** *(Гомель)*, **Вацлава Скрага** *(Падсвілле)*, **Ганна Анішкевіч** *(Паставы)*, **Святлана Ахрэмчык** *(Лугі)*, **Валянціна Хаданёнак** *(Сталіца)*, **Галіна Галуза** *(Падсвілле)*, **Алена Цціннікава** *(Мінск)*, **Рэгіна Ціхая** *(Камарова)*, **Яніна Дулінец** *(Савуткі)*, **Вацлава Савіцкая** *(Глыбокае)*, **Ванда Дзенісенка** *(Гомель)*, **Зінаіда Жук** *(Падсвілле)*, **Эмілія Бугаева** *(Лынтупы)*, **Святлана Бадзюл** *(Паставы)*, **Наталля Насура** *(Мінск)*, **Зоя Воранава** *(Шуміліна)*, **Мацкевіч С.А.** *(Ракуці)*, **Часлава Гулевіч** *(Маладзечна)*, **Эмілія Стакло** *(Юльянова)*, **Вераніка Абуховіч** *(Дунілавічы)*, **Яніна Стасюкевіч** *(Лунно)*.

Калі Вы хочаце дапамагчы "Каталіцкаму Весніку" сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар'яновіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

***Рэдакцыя***
***"Каталіцкага Весніка"***

## Дзень засяроджанасці для моладзі
### 13 красавіка 2019, Полацк






**План сустрэчы:**

**13.30 – 14.00** – Прыезд удзельнікаў.
**14.00** – Прывітанне і ўступнае слова. Святая Імша.
**15.00** – Канферэнцыя.
**16.00** – Праца ў групах.
**16.30** – Вячэра.
**18.00** – Крыжовы шлях.
**19.00** – Супольны інтэграцыйны час.
**20.00** – Адарацыя.
**21.00** – Бласлаўленне і развітанне.

Каталіцкі ВЕСНІК №3(96) сакавік 2019 г.

# Каляндар на красавік

**У гэтым месяцы мы адзначаем самае вялікае свята хрысціянаў – Вялікдзень. А таксама перажываем Вялікі Тыдзень – час разважанняў пра пакуты і смерць на крыжы Езуса Хрыста.**

**14 красавіка – Пальмовая нядзеля або Нядзеля Мукі Пана.**



У гэтую нядзелю ў знак ушанавання і памяці пра трыумф Езуса Хрыста пры ўваходзе ў горад Ерусалім асвячаюцца галінкі вярбы, ядлоўцу, часта ўпрыгожаныя кветкамі і стужкамі.

**18 красавіка – Вялікі чацвер.**



У Вялікі чацвер адбылася Тайная – Апошняя – Вячэра Езуса Хрыста са сваімі вучнямі – апосталамі. Падчас святой Імшы ў Вялікі чацвер біскуп ці святар абмывае ногі дванаццаці вернікам у знак пакоры і любові да бліжняга, паўтараючы прыклад Хрыста, Які мыў ногі апосталам. Ад гэтага дня ў касцёле моўкнуць званы і званочкі, усе крыжы пакрываюцца фіялетавымі вэлюмамі, падчас святой Імшы гучаць толькі трашчоткі замест званочкаў. Гэта таксама дзень устанаўлення сакрамантаў Эўхарыстыі і святарства. Вернікі віншуюць сваіх святароў з днём святарства.

**19 красавіка – Вялікая пятніца.**



У Вялікую пятніцу Касцёл успамінае муку і смерць нашага Збаўцы Езуса Хрыста. Гэта дзень скрухі і роздуму ўсяго хрысціянскага свету. Гэта адзіны дзень ва ўсім літургічным годзе, калі ў касцёлах не служыцца святая Імша, а толькі адбываюцца абрад ушанавання святога крыжа і адарацыя-пакланенне Найсвяцейшаму Сакраманту. У Вялікую пятніцу захоўваецца строгі пост без мясных страў.

**20 красавіка – Вялікая субота.**

У гэты дзень працягваецца малітва вернікаў каля Грабніцы Езуса Хрыста. Таксама на працягу ўсяго дня ў касцёле асвячаюцца велікодныя стравы для святочнага стала. Пасля заходу сонца праходзіць урачыстая Пасхальная Вігілія, надзвычай прыгожая і вымоўная ў сваіх абрадах. Падчас яе асвячаецца агонь, пасхальная свечка, вада і спяваюцца велікодныя гімны.

**21 красавіка – Вялікдзень. Дзень Уваскрасення Хрыста. Галоўнае хрысціянскае свята.**



Літургічная цэлебрацыя нядзелі Уваскрасення распачынаецца на світанні. З самай раніцы ва ўсіх касцёлах адбываецца ўрачыстая працэсія з Найсвяцейшым Сакрамантам вакол святыні або вуліцамі гарадоў, мястэчак, вёсак, а затым цэлебруецца ўрачыстая святая Імша, якая называецца Рэзурэкцыйнай (ад лацінскага слова resurrectio – уваскрасенне).

Гэта таксама той дзень, калі ўся сям'я збіраецца разам за велікодным сталом і спажываюцца асвечаныя стравы. Чытаецца ўрывак з Евангелля і малітвы. Усе дзяляцца асвечаным яйкам з соллю, а пасля частуюцца рознымі стравамі. Першы дзень Вялікадня – дзень сямейны.

**28 красавіка – Нядзеля Божай Міласэрнасці.**

Гэтае свята для паўсюднага Касцёла было ўстаноўлена Папам Янам Паўлам ІІ у лістападзе 2000 г. Адзначаецца яно ў другую Велікодную нядзелю. 22 лютага 1931 г. Хрыстус аб'явіўся с. Фаўстыне Кавальскай у кляштары сясцёр Маці Божай Міласэрнасці ў Плоцку, якой і паведаміў



пра сваё жаданне ўстанавіць свята Божай Міласэрнасці. Святая Фаўстына перажыла 23 містычныя аб'яўленні, пра каторыя апавядаецца ў яе "Дзённіку", які яна вяла згодна з жаданнем Хрыста і спаведнікоў. У ім апісваюцца перажытыя цярпенні, містычны стан і аб'яўленні. Яны датычаць, між іншым, стварэння абраза "Езу, давяраю Табе", малітвы "Вяночак да Божай Міласэрнасці", устанаўлення Гадзіны Міласэрнасці (15.00 – гадзіна смерці Хрыста на крыжы) і свята Божай Міласэрнасці. Гэтае свята не толькі дзень асаблівага праслаўлення Бога ў таямніцы міласэрнасці, але таксама і час ласкі для ўсіх людзей. "Я прагну, – сказаў Пан Езус, – каб свята міласэрнасці было выратаваннем і прытулкам для ўсіх душаў, і асабліва для бедных грэшнікаў" (Дз. 699).

**29 красавіка – свята св. Кацярыны Сіенскай – панны і доктара Касцёла, апякункі Еўропы.**



Кацярына Бенінказа нарадзілася ў 1347 г. і была дачкой фарбавальніка з Сіены (Цэнтральная Італія). Ва ўзросце 12 гадоў Кацярына, згодна з жаданнем бацькоў, павінна была выйсці замуж, аднак глыбокая рэлігійнасць і багатае ўнутранае жыццё схілілі яе да таго, каб уступіць у Трэці закон дамініканаў. Паводле ўласных словаў святой, яна перажыла "духоўныя заручыны" з Хрыстом. Сваім геранічным хрысціянскім жыццём, напоўненым самаахвярнай любоўю да бліжніх у імя Хрыста, яна прыцягнула да сябе шмат прыхільнікаў з усіх сацыяльных пластоў. Памерла ў Рыме ва ўзросце 33 гадоў, у апошнія гады жывячыся выключна Эўхарыстыяй.

Святая Кацярына Сіенская з'яўляецца апякункай Італіі і Еўропы. Яе заступніцтва просяць хворыя на чуму і тыя, хто пакутуе ад галаўных боляў.

*Падрыхтавала*
***Вікторыя Колзун***

## На красавік прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і дні святарскага пасвячэння ў наступных святароў:

**1 красавіка** – дзень нараджэння адзначаюць **ксёндз пралат Францішак Кісель** *(Полацк)*, **кс. Чэслаў Курэчка МІС** *(Расія)*;

**8 красавіка** – дзень святарскага пасвячэння адзначае **кс. Мікалай Ліпскі** *(Навалукамль)*;

**10 красавіка** – дзень святарскага пасвячэння адзначае **кс. Аляксандр Півавар** *(Бешанковічы)*;

**11 красавіка** – дзень нараджэння адзначае **кс. Валеры Орсік** *(Орша)*;

**13 красавіка** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Сяргей Сурыновіч** *(Друя)*, **кс. Алег Хмылко** *(Віцебск)*;

**17 красавіка** – дзень нараджэння адзначае **а. Юрый Вільк SCJ** *(Варапаева)*;

**19 красавіка** – імяніны адзначае **кс. Валеры Марціноўскі** *(Люблін)*;

**22 красавіка** – дзень нараджэння адзначае **кс. Юрый Бараўнёў** *(Порплішча)*;

**23 красавіка** – імяніны адзначаюць **кс. Юрый Барок** *(Расоны)*, **кс. Юрый Бараўнёў** *(Порплішча)*, **а. Юрый Вільк SCJ** *(Варапаева)*, **кс. Юрый Жаўняровіч** *(Ахрэмаўцы)*;

**25 красавіка** – імяніны адзначае **кс. Марат Казлоўскі** *(Мосар)*.

## Ахвяруй на сайт Catholicnews.by, не выходзячы з дому

Дарагія сябры, ёсць магчымасць дапамагчы сайту Catholicnews.by фінансава.

Наш сайт абнаўляецца намаганнямі некалькіх чалавек. Рэдакцыя нясе транспартныя выдаткі, аплачвае паслугі хостынгу і інш. Мы залежым толькі ад Вашых ахвяраванняў! **Дашліце нам ад 1 да 5 рублёў на месяц, і мы Вам будзем вельмі ўдзячныя!**

Каб даслаць ахвяраванне, не трэба нікуды ісці. Зрабіць гэта можна з дапамогай уласнага мабільнага тэлефона, падзяліўшыся сваім балансам. **Даслаць ахвяраванне колькасцю 1, 2, 3, 4 ці 5 рублёў можна, зрабіўшы наступнае:**

Адпраўце USSD-запыт наступнага фармату:

*363*375295105172*2# – калі Вы хочаце ахвяраваць 2 рублі;

*363*375295105172*5# – калі Вы хочаце ахвяраваць 5 рублёў;

*(апошняя лічба ў кодзе абазначае памер ахвяравання).*

Вы атрымаеце на свой тэлефон USSD-паведамленне з кодам пацвярджэння. Дашліце USSD-запыт наступнага фармату:

*363*[код пацвярджэння]#

Вы атрымаеце пацвярджэнне паспяховай аперацыі з кароткага нумару 364. З баланса Вашага тэлефона будзе спісана 1, 2, 3, 4 або 5 рублёў, у залежнасці ад таго, якую суму Вы ахвяравалі.

Увага! Максімальны памер аднаразовага ахвяравання можа складаць толькі 5 рублёў. Каб даслаць большую суму ахвяравання, неабходна паўтарыць аперацыю.

Больш падрабязную інфармацыю па правілах ахвяравання чытайце на сайце mts.by

Увага! Прапанова актуальная толькі для абанентаў МТС.

Вялікі дзякуй за ахвяраванне на падтрымку сайта Catholicnews.by! За ўсіх ахвярадаўцаў кожны месяц адпраўляецца св. Імша! Будзьма разам! Няхай Добрая Вестка заўсёды будзе ў Вашым доме!



***Рэдакцыя сайта Catholicnews.by***

# Хрост дзяцей. Дапамажыце разабрацца!

*"Хвала Хрысту! Мне очень нужна ваша помощь. Не знаем, как правильно поступить. Я католичка (в Костёл хожу, к исповеди, к Комунии), муж – православный, храм не посещает, в исповеди никогда не был. Когда женились, венчание было в церкви (бабушки твердили, что нужно идти за мужем), мне разницы не было. Бог у нас один, но батюшка настаивал, чтоб я перешла в православную веру и мы повенчались с тем условием, что мы придём крестить детей в церковь. Через год у нас родилась дочка, покрестили в церкви (крестная – католичка, крестный – православный). Но так уж вышло, что никто ребёнка не приучил к церкви, хотя родственники по мужу – все православные и моя мама тоже. Ребёнок ходил всегда со мной в костёл, знает все молитвы, сейчас готовится к первой исповеди и Комунии. Сейчас у нас родился второй ребёнок, сын, и, естественно, встал вопрос о его крещении. Будет ли правильным, если мы покрестим его в костёле? Меня волнует вопрос о разделении детей по вере. Муж не против крещения в католическом храме, тем более туда ходит старший ребёнок. Помогите разобраться, очень нужен ваш совет, как же нам правильно всё-таки поступить?"*

*Анна*

**– Паважаная Анна!**

Дзякуй Вам за адкрытасць і свედчанне аб веры, а перадусім за мацярынскі клопат пра будучыню сваіх дзяцей. У нашай краіне шмат змешаных сужэнстваў, таму ў многіх вернікаў узнікаюць падобныя пытанні. Жыццё паказвае, што магчыма прымаць такія рашэнні, якія спрыяюць гарманічнаму развіццю сужэнцаў, сем'яў, Касцёла і ўсяго грамадства. Важным сродкам для вырашэння праблем, звязаных з верай, з'яўлецца асабістая камунія з Богам і сур'ёзны дыялог, які маладыя людзі распачынаюць перад шлюбам і працягваюць праз усё сумеснае жыццё.

## Важнасць духоўнасці

Чалавек, створаны на вобраз і падабенства Бога, пакліканы да ўсебаковага развіцця і ўзрастання ва ўсіх вымярэннях сваёй натуры. Вернікі разумеюць, што ўмовай поўнага развіцця чалавечай асобы з'яўляецца сустрэча са Стваральнікам, Ягонай праўдай і любоўю, якая пастаянна пераменяе тых, хто прабывае ў Божай прысутнасці. Існуюць розныя тэрміны для азначэння таямніцы духоўнага жыцця, ініцыятарам і крыніцай якога заўсёды з'яўляецца Сам Бог. Адны кажуць пра жыццё або камунію з Богам, іншыя пра еднасць, з'яднанне, дыялог, размову, малітву, кантакт, трыванне, прабыванне ў Богу, сузіранне, кантэмпляцыю... Пацвярджае гэта праўду пра багацце духоўнасці, якая ў кожнага верніка пад уздзеяннем Духа Святога ажыццяўляецца па-рознаму.

Важнае месца ў тэалогіі камуніі з Богам займаюць праўда, любоў і свабода, якімі наш Стваральнік надзяляе чалавека. Можам сказаць, што мы пакліканы да жыцця ў свабодзе і святасці Божых дзяцей. Нельга таксама забываць, што ажыццяўленне паклікання – гэта дарога і заданне на ўсё жыццё, пачынаючы з дзяцінства.

## Сям'я – школа жыцця

Асноўную ролю ў працэсе фарміравання чалавечай асобы адыгрывае сям'я, у якой усе дапамагаюць адно аднаму штодня адкрываць, паглыбляць і ўмацоўваць "прыгажосць быць чалавекам". Неад'емная каштоўнасць сям'і – гэта дзеці, якім бацькі, адкрытыя на Божую любоў, не толькі перадаюць дар жыцця, але становяцца іх першаснымі і галоўнымі выхаваўцамі. Касцёл вучыць, што "сапраўднае выхаванне імкнецца фарміраваць чалавечую асобу згодна з яе найвышэйшай мэтай і на карысць грамадства, чальцом якога з'яўляецца чалавек і ў якім ён, стаўшы дарослым, будзе выконваць адпаведныя абавязкі" (Другі ВатыканскіСабор,Дэкларацыя пра хрысціянскае выхаванне *Gravissimum educationis*, 1). Кажучы пра бацькоўскі абавязак выхавання дзяцей, мы маем на ўвазе перадусім сямейную атмасферу, ажыўленую любоўю і павагай да Бога і чалавека, якая садзейнічае інтэгральнаму асабістаму і грамадскаму ўзрастанню маладога пакалення. Пры гэтым варта ўсведамляць праўду пра тое, што занядбанні ў працэсе фарміравання чалавека, асабліва ў дзяцінстве, складана, а часам нават немагчыма выправіць. Сведчаць пра гэта некаторыя бацькі, якія з цягам часу разумеюць свае памылкі і недахопы, а таксама тыя, хто ў сваёй сям'і не сустрэў адпаведнай атмасферы для поўнага развіцця сваёй асобы. Пад тэрмінам "поўнае развіццё" мы разумеем усе сферы жыцця чалавека, у тым ліку і рэлігійную.



## Паслядоўнасць рэлігійнага жыцця

Паважаная Анна, Вы разам з мужам, вырашаючы пра месца хросту сына, стаіце перад важным пытаннем, якое датычыць рэлігійнага выхавання Вашых дзяцей. Прыняты Вамі сакрамант шлюбу надзяліў Вас ласкай, якая дапамагае бацькам вучыць дзяцей з самых ранніх гадоў пазнаваць і праслаўляць Бога, а таксама любіць бліжняга згодна з верай, прынятай падчас хросту. Хрысціянскія бацькі, просячы пра хрост для сваіх дзяцей, прымаюць на сябе абавязак выхаваць іх у веры. Са слоў Анны разумеем, што рэлігійнай фармацыяй дачкі, па паразуменні з мужам, займаецца перадусім менавіта маці, пры чым робіць гэта па-каталіцку. Разумеем таксама, што Анна фармальным актам не адышла з Каталіцкага Касцёла і фактычна працягвае ў яго супольнасці будаваць свае адносіны з Богам. Трэба памятаць, што хрост – гэта пачатак Божага жыцця ў чалавеку, якое па сваёй натуры павінна развівацца дзякуючы Божай ласцы і дапамозе бацькоў.

Пытанне ўдзелу ў сакрамантальным жыцці і рэлігійнай адукацыі звязана з прыналежнасцю да хрысціянскай супольнасці, якая ў сваю чаргу малітвай і даступнымі сабе сродкамі дапамагае сем'ям у паспяховым выкананні іх абавязкаў. Я лічу, што правільным і лагічным з'яўляецца хрысціць дзяцей у той хрысціянскай супольнасці, у якой бацькі самі практыкуюць і маюць намер працягваць развіццё рэлігійнага жыцця сваёй сям'і. Анна піша, што хоць дачка была ахрышчана ў Праваслаўнай Царкве, але ніхто з родных не прывучыў яе да царквы. Маці выхоўвае сваю дачку ў каталіцкім духу і такім чынам адкрывае яе для дзеяння Божай ласкі, якая вядзе да крыніцаў Хрыстовага збаўлення, што бруяць у святых сакрамантах.

Паважаная Анна! Я ўпэўнены, што мудрасць, развага, жыццёвы вопыт і бацькоўская інтуіцыя дапамогуць Вам ды іншым бацькам прыняць правільнае рашэнне адносна хрысціянскага ўтаямнічэння сваіх дзяцей. Жадаю таксама сем'ям нашай краіны быць здаровымі і моцнымі ў тым, што служыць агульнаму дабру ўсяго чалавецтва.

*З малітвай,*
***Аркадзь Куляха OCD***

# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку "Газетная закрыстыя".**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету "Каталіцкі Веснік". Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

***Газета "Каталіцкі Веснік" вул. Савецкая, 1 211793 г. Глыбокае Віцебскай вобл.***

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 10 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

***Місевіч Віктар Мар'янавіч вул. Савецкая, 1 211793 г. Глыбокае Віцебскай вобл.***

## Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце "Газетная закрыстыя". Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце "Каталіцкі Веснік" Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

***Рэдакцыя***
*"Каталіцкага Весніка"*

### Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

### Хвала Хрысту!



***Паважаны біскуп Алег Буткевіч!*** *Ад імя землякоў-вернікаў віншуем Вас з Днём нараджэння!*

*Няхай Вам дапаможа Вялікі Бог у Вашай нялёгкай працы. Жадаем моцы сіл, любові да Бога і людзей, каб Маці Божая заўсёды падтрымлівала Вас у цяжкія хвіліны, зычым здароўя, аптымізму, адкрытых людскіх сэрцаў! Багатага плену на Божай ніве!*

***Святары, сёстры законныя, вернікі Санктуарыя Маці Божай Валадаркі Азёраў у Браславе***

### Дасылаем найлепшыя пажаданні!

***Паважаны біскуп Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч!***

*Дасылаем Вам найлепшыя пажаданні і віншаванні ў Дзень нараджэння!*

*Жадаем Вам моцнага здароўя і доўгіх гадоў жыцця, радасці і вытрымкі на абраным Вамі шляху! Божага блаславення і супакою на кожны дзень! Няхай Маці Божая атуляе Вас сваёй матчынай апекай і вядзе да Нябеснага Валадарства, а Пан Бог хай кіруе ўсімі Вашымі справамі!*

***З вялікай павагай, вернікі Ідолтаўскай парафіі***

### Віншуем!



*31 сакавіка адзначае Дзень нараджэння* ***дыякан Уладзіслаў Шарковіч****.*

*Паважаны дыякан Уладзіслаў! Жадаем Вам шчодрых дароў Духа Святога, шчасця, вернасці абранаму служэнню, моцы духу, светлай радасці!*

***Вернікі парафіі Святой Тройцы ў Глыбокім***

### Віншуем!



*З сардэчнай цеплынёй і малітоўнай памяццю віншуем* ***ксяндза Вячаслава Пялінка****, які 28 сакавіка адзначае дзень святарскага пасвячэння!*

*Мы ўдзячныя Богу за гэтага святара, бо ён заўсёды разумеў і падтрымліваў нас.*

*Ад усяго сэрца жадаем Вам, ксёндз Вячаслаў, Божай ласкі на кожны дзень, моцнага здароўя, шмат сіл, вытрымкі ў душпастырскай працы!*

***З павагай, вернікі з парафіі Святой Тройцы ў Глыбокім***

### Хвала Хрысту!

*28 сакавіка адзначае дзень святарскага пасвячэння* ***ксёндз Вячаслаў Пялінак****.*

*Дай Бог Вам, шаноўны ксёндз Вячаслаў, моцнага здароўя, мудрасці, сіл, цярплівасці, Божай дапамогі і блаславлення!*

*Мы памятаем Вас і молімся ў Вашай інтэнцыі!*

***З павагай і малітвай, вернікі Ідолтаўскай парафіі***

### Шаноўны ксёндз Эдуард Сінкевіч!



*4 красавіка ў Вас Дзень нараджэння. Шчыра віншуем і дзякуем Пану Богу, што па Яго волі Вы прыехалі ў нашу парафію, актывізавалі працу з моладдзю, пагляблаеце нашу веру, вучыце жыць надзеяй і мужна несці зямны крыж. Жадаем Вам, паважаны ксёндз Эдуард, шматлікіх ласкаў Духа Святога, няспыннай апекі Маці Божай, натхнёнага і шчаслівага служэння Пастаўскай парафіі і Каталіцкаму Касцёлу!*

***Вернікі касцёла Святога Антонія Падуанскага ў Паставах***



## Да 10-годдзя каранацыі абраза Маці Божай Валадаркі Азёраў браслаўскі Санктуарый збірае сведчанні

**Прымаюцца допісы любога жанру і фармату: сведчанні, эсэ ці вершы – усё пра заступніцтва Маці Божай у браслаўскай іконе.**

Сёлета Браслаўская парафія, а разам з ёй і ўся Віцебская дыяцэзія будуць адзначаць дзесяцігадовы юбілей каранацыі папскімі каронамі абраза Маці Божай Валадаркі Азёраў. З гэтай нагоды Браслаўская парафія Нараджэння Маці Божай просіць вернікаў распавесці пра цуды, якія здарыліся ў іх жыцці праз заступніцтва Багародзіцы.

Расказаць можна ў любым жанры ці фармаце. Можна таксама паведаміць пра гэта прадстаўнікам парафіі, якія паслухаюць і запішуць вашы сведчанні. Пісаць можна або на электронную пошту wolodiasds@mail.ru, або на адрас парафіі: 211969, вул. Савецкая 1, г. Браслаў. Таксама можна пакінуць сваё сведчанне ў спецыяльнай скрыні ў браслаўскай святыні.

"Заахвочваем вас дзяліцца сваімі перажываннямі і сведчаннямі веры, каб праз гэта памнажалася вера іншых. Загадзя ўдзячны за вашую шчырасць!" – паведамляецца на сайце парафіі.

***Зміцер Лупач****, паводле waladarka.by*

## Рэкалекцыі для юнакоў і міністрантаў пройдуць у Міждыяцэзіяльнай семінарыі ў Гродне

**З 12 па 14 красавіка ў Міждыяцэзіяльнай духоўнай семінарыі ў Гродне адбудуцца рэкалекцыі на тэму: "Калі хочаш Мяне наследаваць, то бяры свой крыж на кожны дзень і ідзі са Мною збаўляць свет".**

Запрашаем усіх юнакоў, а асабліва міністрантаў ад 14 гадоў на перажыванне хвілін цішыні і разважання над сваім жыццёвым шляхам, каб запытацца ў сябе ў сэрцы: "Да чаго мяне кліча Бог?"

Удзельнікі рэкалекцый змогуць адчуць клімат семінарыйнага жыцця, паразмаўляць з семінарыстамі і духоўнымі айцамі, а таксама ўзбагаціць свае веды адносна праўдаў веры і малітвы. Пра ўдзел у рэкалекцыях неабходна паведаміць да 9 красавіка.

**Адказны – кс. Андрэй Лішко: +375 29 744 99 61**

**Запіс па тэлефоне: +375 15 262 22 22**

**Пачатак рэкалекцый – 12 красавіка ў 17.00**

З сабой трэба мець Святое Пісанне і коўдру, а таксама добры настрой.

*Catholic.by*



## Трудные вопросы: изображения Бога

**Содержит ли Священное Писание запрет на рукотворные изображения Бога и поклонение им?**



В Ветхом Завете содержится запрет на изображение Бога человеком: "Не делай себе кумира и ни какого изображения" (Исх 20,4). Но в том же ВетхомЗавете мы встречаем повеления Бога о символических изображениях. К ним относятся, например, медный змей и Ковчег завета. Эти знаки предвозвещали спасение через воплощение Слова. В "Книге Премудрости" поясняется: спасение пришло тогда не от змея, а от Того, кого змей символизировал: "Обращавшийся исцелялся не тем, на что взирал, но Тобою, Спасителем всех" (16,7). На этот символ впоследствии сошлется и Сам Иисус: "И как Моисей вознес змию в пустыне, так должно вознесену быть Сыну Человеческому, дабы всякий, верующий в Него, не погиб, но имел жизнь вечную". (Ин 3,14-15).

Именно на этом основании Седьмой Вселенский собор осудил иконоборчество и предписал почитание икон – изображенийХриста, ангелов и святых. Почитая образ, мы воздаем хвалу тому, кто на нем изображен. Святой апостол Павел называет Иисуса Христа "образом Бога невидимого" (1 Кол 1,15). Сам Бог показал Себя во Христе. Христианское почитание изображений не противоречит первой заповеди, запрещающей идолов. Действительно, "почитание, воздаваемое образу, обращено к прообразу", и "тот, кто почитает образ, почитает изображенную на нем личность". Почитание икон и других изображений – это "выражение глубокого почтения", а не поклонение, которое подобает одному только Богу. В терминологии Католической Церкви слово "поклонение" никогда не относится к изображениям.

*Русская редакция VaticanNews*

## Да якой канфесіі належаць дзеці са змешаных сужэнстваў?

*“Хвала Хрысту! Патлумачце, калі ласка, калі чалавек быў ахрышчаны ў Праваслаўнай Царкве, яго бацька таксама праваслаўны, але маці – рыма-каталічка, згодна з каталіцкім вучэннем да якой канфесіі ён належыць? І ці праўда, што праваслаўны бацька можа вызначаць прыналежнасць сына да Грэка-каталіцкай Царквы?”*
*Зміцер*

**На пытанне адказвае ксёндз Дзмітрый Пухальскі, канцлер Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі:**

– Паважаны Зміцер! Для таго, каб адказаць на першае пытанне дакладна, неабходна ведаць узрост, у якім чалавек быў ахрышчаны: ці перад дасягненнем 14-гадовага ўзросту, ці пасля. Але разгледзем абедзве сітуацыі.

1 Чалавек быў ахрышчаны перад дасягненнем 14-гадовага ўзросту. У гэтай сітуацыі трэба звярнуцца да кан. 111, § 2 Кодэкса кананічнага права, які гаворыць, што ў сітуацыі, калі толькі адзін з бацькоў дзіцяці з'яўляецца католікам, то дзіця належыць да таго Касцёла, да якога належыць каталіцкі бок. У апісанай Вамі сітуацыі адзін з бацькоў (маці) з'яўляецца католікам лацінскага абраду, а бацька праваслаўны. У такой сітуацыі дзіця будзе з'яўляцца таксама католікам лацінскага абраду.

Варта таксама адзначыць, што пры ўдзяленні сакраманту хросту прыналежнасць дзіцяці да таго ці іншага Касцёла вызначае не распарадчык (у Вашай сітуацыі гэта быў праваслаўны святар), а канфесійная і абрадавая прыналежнасць бацькоў.

Падобная норма знаходзіцца таксама ў Кодэксе канонаў Усходніх Касцёлаў, якім кіруецца Грэка-каталіцкі Касцёл. Канон 29, § 1 гаворыць, што дзіця належыць да Касцёла таго абраду, да якога належыць яго бацька католік. У выпадку, калі толькі маці з'яўляецца каталічкай або калі бацькі згодна пра гэта просяць, то дзіця належыць да Касцёла таго абраду, да якога належыць маці дзіцяці. Мы бачым, што таксама згодна з Кодэксам канонаў Усходніх Касцёлаў чалавек таксама належыць да Касцёла лацінскага абраду.

2 Чалавек быў ахрышчаны пасля дасягнення 14-гадовага ўзросту. У гэтай сітуацыі канфесійная і абрадавая прыналежнасць бацькоў не мае значэння. Згодна з кан. 111, § 3 ККП і кан. 30 ККУК чалавек належыць да таго Касцёла, у якім ён сам выбраў сабе хрост.

Адказваючы на другое пытанне, трэба зазначыць, што праваслаўны бацька можа вызначаць прыналежнасць сына да Грэка-каталіцкай Царквы толькі ў адным выпадку – калі бацька перад дасягненнем сынам 14-гадовага ўзросту перайшоў у поўную лучнасць з Каталіцкім Касцёлам (гаворачы простай мовай – стаў католікам). Але і ў такой сітуацыі паводле кан. 112, § 1, 3 пасля дасягнення сынам 14-гадовага ўзросту сын можа вярнуцца ў Касцёл лацінскага абраду.

## Что такое чистилище?

Согласно учению Церкви, спасается и попадает в рай тот, кто находится в состоянии Божественной благодати. Однако это не значит, что в рай попадают немедленно: путь к нему лежит через чистилище. Чистилище – это не наказание, а милость. Как гласит Катехизис Католической Церкви, “те, кто умирает в благодати и дружбе Божией, но не совершенно очищенными, хотя им и обеспечено вечное спасение, после смерти претерпевают очищение, чтобы обрести святость, необходимую для вступления в радость небесную”.

Церковное Предание, ссылаясь на некоторые тексты Писания, говорит об очистительном огне: “Что касается некоторых менее тяжких прегрешений, надо думать, что до суда существует очистительный огонь, согласно словам Того, Кто есть истина, говорящего, что если кто скажет хулу на Духа Святого, то не простится ему ни в сем веке, ни в будущем (Мф 12, 31-32). Исходя из этого суждения, мы можем понять, что некоторые грехи могут быть отпущены в веке сем, а некоторые другие – в будущем”. (Катехизис Католической Церкви 1031).

Апостол Павел говорит, что “каждого дело обнаружится; ибо день покажет, потому что в огне открывается, и огонь испытает дело каждого, каково оно есть. У кого дело, которое он строил, устоит, тот получит награду. А у кого дело сгорит, тот потерпит урон; впрочем сам спасётся, но так, как бы из огня”. Хотя догмат о чистилище был принят Католической Церковью только в XV веке, и на Западе, и на Востоке Церковь всегда верила, что души покаявшихся не до конца или умерших хотя и не в смертном грехе, но в несовершенствах, после смерти должны пройти очищение, и поэтому их поддерживают заупокойными молитвами.

***Ольга Скакун***,
*русская редакция*
*VaticanNews*

# Ці можна прымаць бежмаванне другі раз?



*“Хвала Хрысту! Адкажыце, калі ласка, на маё пытанне. Я бежмаваўся ў маладосці, не разумеючы, для чаго, не ставячыся сур'ёзна да гэтага сакраманту. Пазней зрабіў шмат нядобрых учынкаў супраць людзей і Бога. Толькі ў 2016 годзе я зразумеў увесь цяжар маіх учынкаў і пакаяўся і зараз стаўлюся з усёй сур'ёзнасцю і верай у Пана Бога. Тады, у 90-х гадах, прыехаў біскуп і пабежмаваў усіх ахвотных, а зараз каб пабежмавацца трэба хадзіць на падрыхтоўку і вучыцца. Ці трэба мне другі раз бежмавацца? Хвала Хрысту!”*
*Юрый*

– На вякі хвала, шаноўны Юрый! Каб больш поўна адказаць на Вашае пытанне, спачатку трэба растлумачыць, чым з'яўляецца сакрамант бежмавання альбо канфірмацыі. Увогуле сакрамант – гэта бачны знак нябачнай ласкі, устаноўлены Хрыстом.

У Дзеях Святых Апосталаў мы можам прачытаць: “Калі ж Апосталы ў Ерусаліме пачулі, што Самарыя прыняла слова Божае, паслалі да іх Пятра і Яна, якія, прыйшоўшы, памаліліся за іх, каб яны прынялі Духа Святога, таму што Ён яшчэ не сыходзіў ні на кога з іх, бо яны былі толькі ахрышчаныя ў імя Пана Езуса. Тады Апосталы ўскладалі на іх рукі, і яны атрымлівалі Духа Святога” (Дз 8, 14-17).

Святы Айцец Павал VI, у Апостальскай Канстытуцыі “Divinae consortium naturae”, прысвечанай сакраманту канфірмацыі, піша: “З таго часу апосталы, каб выконваць волю Хрыста, перадавалі нованавернутым, ускладаючы на іх рукі, дар Духа, Які завяршае ласку хросту. Таму ў Пасланні да габрэяў сярод элементаў першага хрысціянскага веравучэння мае месца вучэнне пра хрышчэнне і ўскладанне рук, што законным чынам прызнана каталіцкай традыцыяй як пачатак сакраманту канфірмацыі, каб такім чынам увекавечыць у Касцёле ласку Пяцідзесятніцы”.

Сакрамант бежмавання альбо канфірмацыі – гэта сакрамант духоўнай сталасці. Катэхізм Каталіцкага Касцёла вучыць, што “вынікам Канфірмацыі з'яўляецца асаблівы водблеск Святога Духа, які раней быў падараваны апосталам у дзень Пяцідзесятніцы” (ККК, 1302). Дзякуючы гэтаму водблеску Святога Духа сакрамант канфірмацыі дае ўзрастанне і паглыбленне ласкі хросту. Сакрамант канфірмацыі глыбей укараняе нас у сыноўняй сувязі з Богам, якая дае нам магчымасць усклікаць: “Абба, Ойча!” (Рым 8, 15). Ён мацней звязвае нас з Хрыстом, памнажае ў нас дары Духа Святога, робіць больш дасканалай нашу сувязь з Касцёлам. Таксама гэты сакрамант дае нам асаблівую сілу Духа Святога, каб словамі і справамі распаўсюджваць і абараняць веру як сапраўдныя сведкі Хрыста, каб адважна вызнаваць імя Хрыстова і ніколі не саромецца Крыжа (ККК, 1302).

Увогуле кожны ахрышчаны католік павінен і можа прыняць сакрамант канфірмацыі. Вельмі слушна ў пытанні Вы закранулі тэму неабходнай падрыхтоўкі да гэтага сакраманту. У першую чаргу, бацькі абавязаныя клапаціцца пра падрыхтоўку сваіх дзяцей да сакрамантальнага жыцця.

Каб атрымаць сакрамант канфірмацыі неабходна вельмі добра да яго падрыхтавацца. Падрыхтоўка да канфірмацыі павінна падвесці хрысціяніна да больш глыбокага злучэння з Хрыстом, да больш жывога збліжэння з Духам Святым, з Яго дзеяннем, ласкай і натхненнем, каб ён змог лепш прыняць на сябе апостальскую адказнасць хрысціянскага жыцця. Катэхізацыя перад канфірмацыяй павінна абудзіць пачуццё прыналежнасці да Хрыстовага Касцёла: як да Паўсюднага Касцёла, таксама і да парафіяльнай супольнасці. А парафіяльная супольнасць, у сваю чаргу, нясе асаблівую адказнасць за падрыхтоўку да гэтага сакраманту.

Ксёндз доктар Міхал Кашоўскі ў “Навуцы касцёла ў пытаннях і адказах” піша: “Нават калі хтосьці атрымаў сакрамант канфірмацыі не годным чынам, гэта значыць у стане смяротнага граху, не ўдзяляецца яму гэты сакрамант у другі раз, таму што, як хрост і святарства, ён пакідае ў душы глыбокі след, які завецца сакраментальным характарам. Таму гэты сакрамант прыняты правамоцна. Праз сакрамантальны характар чалавек асаблівым спосабам удзельнічае ў святарскім, прароцкім і пастырскім служэнні Хрыста, яднаецца з супольнасцю Касцёла і ў той жа самы час абавязаны аддаваць пашану Богу. Сакрамант канфірмацыі абавязвае вернікаў актыўна будаваць Касцёл, прапаведуючы Евангелле і займацца апостальскай працай праз удзел у сакрамантах, а асабліва ў Эўхарыстыі. Сакрамант канфірмацыі, прыняты ў стане смяротнага граху, важны, аднак, не прыводзіць да павелічэння асвячальнай ласкі, гэта значыць, Божага жыцця”.

Параграф 1 канону 889 Кодэкса Кананічнага Права 1983 кажа, што прыняць сакрамант канфірмацыі здольны кожны ахрышчаны (і толькі ахрышчаны), які яшчэ не быў канфірмаваны. Гэтым канонам падкрэсліваюцца неабходныя ўмовы, каб прыняць сакрамант канфірмацыі (бежмавання): неабходна быць ахрышчаным і яшчэ не бежмаваным. Тое самае кажа і Катэхізм Каталіцкага Касцёла у нумары 1304: “Сакрамант канфірмацыі, падобна да Хросту, давяршэннем якога ён з'яўляецца, удзяляецца толькі адзін раз”. Такім чынам мы бачым, што гэты сакрамант прымаецца толькі адзін раз у жыцці.

Падчас сакраманту канфірмацыі павінен прысутнічаць таксама сведка. Згодна з прадпісаннямі канону 893 § 2: “Пажадана, каб сведкам бежмаванага прызначаўся хтосьці з хросных, які прыняў на сябе тыя ж самыя абавязкі пры хрышчэнні”, аднак гэта не з'яўляецца абавязкам. Сведка можа быць абраным праз кандыдата да бежмавання альбо яго бацькамі. Неабходна памятаць, што сведка павінен вызначацца добрым хрысціянскім жыццём, а таксама быць католікам-практыкам. У часе ўдзялення сакраманту канфірмацыі сведка кладзе правую руку на правае плячо кандыдата ў знак таго, што ён будзе дапамагаць яму парадамі і прыкладам у жыцці, згодна з вызнаванай верай.

*З павагай,*
***кс. Аляксей Ляшко***,
*афіцыял Біскупскага Суда*

# Абраз Маці Божай Ружанцовай Ушацкай – гісторыя вяртання


Тэрэза Крыванос

**У лістападаўскім нумары “Каталіцкага Весніка” мы паабяцалі падрабязней распавесці пра гісторыю гэтага абраза, які вярнуўся ва Ушачы ў дзень паўторнага асвячэння храма ў 2004 годзе.**

– Гісторыя гэтага абраза вельмі цікавая, як і наогул гісторыя нашай мясцовасці, – распавядае Тэрэза Крыванос з Ушачаў. – Гісторыя нашай парафіі пачынаецца з 1719 года, калі Геранім Жаба запрасіў ва Ушачы даміліканаў. Яны пабудавалі касцёл святога Гераніма, а таксама кляштар. І хтосьці з тагачасных манахаў напісаў абраз, які потым атрымаў назву Маці Божай Ружанцовай Ушацкай.

Так атрымалася, што Маці Божая ў гэтым абразе шмат каму дапамагла. Ужо напрыканцы XVIII стагоддзя была створаная самастойная Ушацкая парафія, і яе патронкай стала Маці Божая Ружанцовая. Абраз гэты быў не толькі цудадзейны, але і прыгожы. Магчыма, яго маляваў нават не адзін мастак, а цэлая суполка. Бо, як сведчаць крыніцы, касцёл і кляштар распісалі так, што кожны малюнак быў рэльефны, нібы высечаны з дрэва або каменю, і западаў у душу.

Слава абраза была настолькі вялікая, што прыцягвала ўсё больш і больш вернікаў, якіх у XVIII стагоддзі было тут больш за паўтары тысячы.

– Людзі, якія звярталіся да Маці Божай у гэтым абразе з малітвай, з песняй, атрымлівалі дапамогу, – працягвае Валянціна Відзевіч, – пра што сведчыла шмат вотаў, якія ўпрыгожвалі гэты абраз яшчэ ў XIX стагоддзі.

Царскі ўрад заўсёды з недаверам, а часам і з варожасцю ставіўся да Каталіцкага Касцёла, а ў другой палове XIX стагоддзя наогул настаў неспрыяльны час.

– Наступіў 1863 год. Большасць вернікаў, якія належылі да дробнай шляхты, падтрымалі паўстанне пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага, распавядае далей Тэрэза Крыванос. – Пасля паразы паўстання касцёл расійскія ўлады зачынілі і перадалі Праваслаўнай Царкве. І тады вернікі з вялікай пашанай і гэты абраз, і ўсё, што было ў касцёле, з працэсіяй, з малітвай, са слязамі на вачах перанеслі да касцёла святой Веранікі ў Селішчы.

На пачатку XX стагоддзя ва Ушачах быў збудаваны новы парафіяльны касцёл. Але ён праслужыў людзям зусім невялікі час. Пачалася Першая сусветная вайна, потым рэвалюцыя, грамадзянская вайна ў Расіі, савецка-польская вайна... Падчас гэтых драматычных падзей пацярпеў і будынак ушацкага храма.

Але яшчэ больш пацярпеў Касцёл у Савецкай Беларусі ў 20-х гадах XX стагоддзя, калі савецкая ўлада стала змагацца з рэлігіяй. Ва Ушачах арыштавалі святара, а сам будынак касцёла забралі ў каталіцкай супольнасці. Пасля шмат католікаў выселілі ў глыб краіны, а Ушаччыну засялілі іншымі людзьмі. Сам ушацкі храм стаяў у руінах да канца XX стагоддзя, пакуль не пачаліся працы па яго аднаўленні.

Яшчэ больш не пашанцавала касцёлу святой Веранікі. Прыгожы храм ператварыўся ў руіны, якія стаяць да нашага часу. Аднаўляць будынак ужо не было каму, бо ў былой парафіі амаль не засталося вернікаў.

Падчас усіх гэтых драматычных, а часам і трагічных падзей згубіўся абраз Маці Божай Ружанцовай. Пасля аднаўлення парафіі ва Ушачах ў 90-х гадах мінулага стагоддзя вернікі сталі шукаць хоць нейкія звесткі пра яго. І Бог ім дапамог!

Распавядае Валянціна Відзевіч:

– Аднойчы да нашага ксяндза звярнулася адна з парафіянак віцебскага касцёла святой Барбары Галіна Кухта, якая мае тут дачу. А гэта была старая хатка яе бабулі ў вёсцы Ліпаўцы побач з Ушачамі. І яна паказала кс. Ежы копію старога абраза, які знайшла ў сваёй бабулі пасля яе смерці. Бабуля нарадзілася ў 1904 годзе, і ўсё жыццё не расставалася з гэтым абразом. Яна малілася да яго і спявала песню да Маці Божай Ружанцовай Ушацкай, якая з даўніх часоў дайшла да нас. Напісаная песня была яшчэ манахамі-даміліканамі, калі яны былі ва Ушачах.



Спадарыня Галіна распавяла “Каталіцкаму Весніку”, што яна вельмі ўдзячная сваёй бабулі, дзякуючы якой яна была патаемна ахрышчаная і атрымала ў спадчыну каталіцкую веру. І калі бабуля памерла ў 1995 годзе, у яе малітоўніку яна і знайшла чорна-белую копію гэтага абраза. На зваротным баку быў змешчаны тэкст песні да Маці Божай у гэтым абразе.

Спадарыня Галіна ў той час ужо жыла ў Віцебску і хадзіла ў касцёл святой Барбары, дзе служыў айцец-дамініканін Міхаіл Ермашкевіч. Яна і звярнулася да яго з просьбай аднавіць абраз.

– Я б не назваў гэта аднаўленнем, – кажа а. Міхаіл Ермашкевіч OP. – Ён нанова напісаны на аснове старога фотаздымка. Фотаздымак быў не вельмі добрай якасці, таму даводзілася нешта дадумваць, як гэта магло быць на падставе іншых абразоў такога кшталту.

– А цяжка гэта было зрабіць?

– Пісаць абразы ёсць у дамініканскай традыцыі. Вядома, калі я праходзіў фармацыю ў дамініканскім ордэне, то дадваўся і пра традыцыі іканаграфіі. Таму я меў ужо некаторае ўяўленне, як ён мог выглядаць. Таму я б не сказаў, што гэта было дужа цяжкай для мяне працай. Цяжэй прыдумваць тое, чаго наогул не было. Вядома, малітва павінна быць, бо гэта ж не звычайная карціна малюецца, а абраз. І тады ўжо сам Бог дапамагае.

– Вось так на адкрыццё нашага касцёла ў 2004 годзе мы атрымалі падарунак – прыгожы абраз Маці Божай Ушацкай, – кажа Валянціна Відзевіч. – Зараз мы молімся да абраза адмысловай Навэннай, якую чытаем на нашым ружанцовым коле. Утворанае яно было вельмі даўно, яшчэ да адбудовы нашага касцёла. Збіраемся кожны чацвер. Мы верым, што Маці Божая ў сваім цудоўным абразе з намі і сёння. Мы зараз не вешаем каля яе воты, але кожны з нас можа засведчыць выпадкі, калі менавіта малітвамі да гэтага абраза ён атрымліваў дапамогу.

– Гэта наша Маці, наша Апякунка вярнулася да нас! Гэта было такой радасцю, што мы не маглі стрымаць слёз, – захоплена дзеліцца з намі Тэрэза Крыванос.

А пасля ўшацкія вернікі атрымалі яшчэ адзін падарунак: Рыгор Барадулін, які нарадзіўся ва Ушачах і часта наведваў адноўлены храм, пераклаў тэкст дамініканскай песні на беларускую мову. А тагачасная ўшацкая парафіянка Алеся Каваленка напісала да яе музыку.

Мы спыталі ў айца Міхаіла: на яго думку, ці атрымалася ў яго напісаць абраз? Ён сціпла адказаў:

– Гэта ўжо людзі хай вырашаюць, атрымаўся ён ці не. Што мог, тое зрабіў. А калі Бог дае праз яго нейкія ласкі, то трэба дзякаваць Богу.

Ушацкія вернікі выказалі шмат цёплых слоў у адрас айца Міхаіла. Яны ўдзячныя ўсім, хто дапамагае іх невялікай на сённяшні дзень парафіі.

– Мы ўсё болей і болей адчуваем, што касцёл не толькі будынак, гэта наш дом, наша святыня, дзе гаспадыня – Маці Божая, – сказала напрыканцы Валянціна Відзевіч.

## Хвала Хрысту!

Сёння, падчас Вялікага посту, мы, вернікі Ушаччыны, дзякуем Пану Богу за тое, што Ён не пакідае нас без сваёй апекі, за тое, што дае нам гэты час для малітвы і пакаяння, навяртання і разважання над Божым словам і Яго Провідам.

Мы дзякуем кожнаму ахвярадаўцу, усім неабыякавым людзям, якія адгукнуліся на нашу просьбу дапамагчы ў зборы сродкаў на рамонт касцёла Святога Лаўрэна, за малітву пра адраджэнне нашай парафіі і ахвярнасць дзеля захавання Святыні.

## Падзяка з Ушачаў

На жаль, мы не маем магчымасці наведаць усе парафіяльныя супольнасці, каб асабіста падзякаваць кожнаму пробашчу і кожнаму верніку за малітву і ахвяру, таму хочам праз гэты артыкул звярнуцца да вас, дарагія браты і сёстры, са словамі глыбокай удзячнасці за вашыя духоўныя дары і матэрыяльную падтрымку, а таксама запэўніць у нашай малітве за вас.

Асаблівыя словы ўдзячнасці накіроўваем у парафіі Найсвяцейшага Сэрца Езуса Хрыста з Навапалоцка і Маці Божай Шкаплернай з Мядзеля. Просім пра заступніцтва Найсвяцейшай Панны Марыі для кожнага з Вас.

Таксама просім усіх неабыякавых людзей далучыцца да нашай акцыі “Зберажом Святыню разам”, каб праз нашыя сумесныя намаганні, малітву, добрае слова і канкрэтныя ўчынкі мы змаглі адрамантаваць касцёл ва Ушачах.

*З глыбокай удзячнасцю і дарам малітвы,*
*ад імя супольнасці парафіі Святога Лаўрэна ў г.п. Ушачы*

**У парафіі Святога Лаўрэна ва Ушачах можна замовіць абразы Маці Божай Ружанцовай Ушацкай. Выраблены яны ў Дзвінскай майстэрні.**
**У парафіі можна таксама замовіць ружанцы ручной работы.**
**Усе сродкі ідуць на рамонт ушацкага храма.**
**Звяртайцеся па тэл.: +375 29 598 45 17 *(Ірына Вер'сава)***
**Зберажом святыню разам!**

**Правільныя адказы на тэст са старонкі 9**
1 – Б; 2 – В; 3 – Б; 4 – В; 5 – В; 6 – А; 7 – Б; 8 – Б

Пазнаём Хрыста і Яго Касцёл!

# ПАЗНАВАЙКА

**Вельмі хутка будзем зноў перажываць апошнія падзеі з жыцця Езуса і радаснае свята Яго ўваскрасення!**

Аб тым, як Езус урачыста ўязджаў у Ерузалем, можаш прачытаць у Евангеллі ад Яна 12, 12-19.

Калі злучыш па парадку кропкі, даведаешся, на якой жывёле ехаў Езус. Размалюй, што атрымалася.

## Праўда, якую хрысціяне абвяшчаюць пасля Вялікадня.

З кошыка выберы толькі чырвоныя яйкі і прачытай, што гэта за словы. Адказ запішы ўнізе.

АДКАЗ: ______________________________

На апошняй вячэры Езус Хрыстус устанавіў два сакраманты: Эўхарыстыі і Святарства. Не забудзь у Вялікі чацвер павіншаваць свайго святара!

## Палічы, колькі келіхаў на малюнку.

Адказ запішы ўнізе.

Адказ: ____________

## Давай разам размалюем Пасхальныя яйкі?

Дамалюй узоры на яйках і пафарбуй іх.

## Хто адваліў камень ад магілы Езуса?

Выберы правільны малюнак

1. 2. 3. 4. 5.

## Як хрысціяне пачалі фарбаваць яйкі.

Адна з легендаў распавядае пра Марыю Магдалену, якая пасля Уваскрасення Хрыста прыйшла да імператара Ціберыя ў Рым і прынесла яму ў падарунак яйка – сімвал новага жыцця. У тыя часы да імператара нельга было прыйсці без падарунка. Марыя Магдалена падала яйка са словамі «Хрыстос Уваскрос!» і пачала распавядаць пра Езуса, які Уваскрос. Яйка ў руках Марыі Магдалены было спачатку белым. Калі яна стала распавядаць пра Езуса, Ціберый усклікнуў, што чалавек не можа ўваскрэснуць, як не можа гэтае белае яйка стаць чырвоным. Яйка ў руках жанчыны адразу ж зрабілася чырвоным, а Ціберый пасля прыняў Хрост.

*Мастачка: Вольга Будкіна; ідэя: Вікторыя Колзун*

